17 ліпеня 2020 | № 26 (685)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144




**Адзін прэзідэнт на дзве краіны**
Стар. 9

**4 У КОЖНАГА СВАЁ СЯРЭДНЯВЕЧЧА**

Няпроста знайсці мяжу паміж палітычным пратэстам і пратэстам сацыяльным, што пераходзіць у бунт бессэнсоўны і бязлітасны

**5 «У БЕЛАРУСІ ФАЛЬСІФІКАВАЦЬ ВЫБАРЫ НЕСКЛАДАНА»**

Пра тое, як у Беларусі фальсіфікуюцца выбары, «Новы Час» паразмаўляў з Львом Марголіным, нацыянальным каардынатарам кампаніі назірання «Права выбару»



**7 «НЕ ЛЮБЛЮ, КАЛІ ГРУКАЮЦЬ У ДЗВЕРЫ»**

Анархіст Зміцер Паліенка зноў знаходзіцца пад крымінальнай справай. Мы паразмаўлялі з жонкай Змітра Настай пра тое, чым жыве і пра што марыць сям'я анархістаў

**10 «УСЁ ЖЫЦЦЁ МАЁ — ЯК КАЗКА, ТОЛЬКІ НЯДОБРАЯ, СУРОВАЯ»**

Жыццё пісьменніка Яна Скрыгана сапраўды падобна на злую казку: двойчы рэпрэсаваны, ён цудам выжыў



# «Павел, трымайся, мы побач»



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Больш за 700 чалавек было затрымана ад пачатку выбарчай кампаніі. Шмат з іх — тыя, хто ўпершыню спазнаў усе цікавосткі палітычнага жыцця ў краіне. Але сярод затрыманых ёсць чалавек, які больш за 20 гадоў свайго жыцця прысвяціў змаганню за дэмакратычную Беларусь, хаця мог быць паспяховым інжынерам-геолагам.**

Першыя затрыманні Павел Севярынец зведаў яшчэ ў 1997 годзе. Агулам колькасць затрыманняў супрацоўнікамі КДБ і міліцыі пераскрочыла сотню. Штрафы, суткі, «хімія», турма... Вось і цяпер сустаршыня БХД Павел Севярынец ужо другі месяц адбывае адміністрацыйныя арышты ў ізалятары на Акрэсціна. Маці, жонка і сястра палітыка распавялі «Новаму Часу» пра тое, як яны перажываюць гэтыя дні.

## Таццяна Севярынец: «За тое, што адбываецца, віна ляжыць на кожным беларусе»

Гэты арышт для Паўла Севярынца далёка не першы, палітык з 1990-х гадоў перыядычна трапляе на суткі, двойчы адбываў «хімію». Але, па словах



маці Паўла Таццяны Севярынец, па сваёй жорсткасці ён адрозніваецца ад папярэдніх.

«Адрозніваўца пачало адразу, з брутальнага затрымання на вачах у дзіцяці і жонкі. Але, на жаль, гэта чакалася і гэтага сцерагліся», — гаворыць спадарыня Таццяна.

Паводле яе словаў, калі стала вядома, што людзей у ІЧУ катуюць (адбіраюць рэчы, не перадаюць перадачы, кідаюць у халодны карцар, не даюць матрацы, не водзяць у душ і на прагулкі), перажываць зняволенне сына стала зусім невыносна. Калі раней можна было патэлефанаваць у ізалятар і даведацца, дзе ён, цяпер прыйшлося тэлефанаваць па вышэйшых інстанцыях, выказваць абурэнне, патрабаваць спыніць катаванні.

«Гэта сцяна, — гаворыць маці пра супрацоўнікаў інстанцый, у якія звярталася. — Літаральна 9 чэрвеня стала вядома, што не прымаюць перадачы, я даведалася, чый гэта загад, дамаглася, каб далі тэлефон начальніка ЦІП Шапецькі, я з ім гаварыла асабіста. Вельмі па-хамску са мной размаўляў, я потым на гэта напісала скаргу ў ГУУС Мінгарвыканкама, потым у МУС, калі даведалася пра катаванні. 17-га паехала ў Мінск, каб перадаць перадачу і падмяніць Паўла ў Курапатах. На Акрэсціна напісала скаргу ў кнігу скаргаў, размаўляла з дзяжурным інспектарам, спрабавала прысарамаціць, але безвынікова... Сцяна абыякавасці і нават нейкай унутранай задаволенасці службоўцаў (бо ўвесь час пасміхаліся), што дэманструюць сваю ўладу.

Вельмі цяжка, вельмі. Есці, спаць, гаварыць пра што... Адчуванне, як сыходзяць сілы. Таму, каб не дайсці да адчаю, проста стараешся гнаць ад сябе такія думкі, толькі малітва супакойвае».

Цяпер Таццяна Яўгенаўна найбольш непакоіцца пра здароўе Паўла, і без таго моцна падарванае ранейшымі адсідкамі. А таксама — за яго жыццё, бо, па словах жанчыны, улада гатовая на ўсё.



Фота НЧ

**Сярод беларусаў яшчэ шмат хто не разумее — за тое, што адбываецца, віна ляжыць на іх: маўчалі, дазволілі, цярпелі**

Таццяна Севярынец сама адчувае пастаянны ціск: раней выходзіла на пікеты, каб падтрымаць мірных пратэсты, і цяпер пры парозе ў яе заўжды напагатове заплечнік з рэчамі.

«Ходзіць бясконца міліцыя, як і за ўсімі, як паўсюль. Яшчэ моцна гнятуць гэтыя беззаконня суды, гэтыя маладыя аўчаркі, гэтыя суддзі, што цынічна і нахабна лепяць людзям штрафы і суткі», — прызнаецца Таццяна Севярынец.

Пасля затрымання Паўла Севярынца на яго адрас гучалі выказванні, што яму не варта было выходзіць на пікет 7 чэрвеня, дый наогул, час «старой апазіцыі» прайшоў. Але маці палітыка кажа: Павел — чалавек, які не можа сядзець дома, калі адбываюцца падзеі такога кшталту.

«Тым больш, ён лічыў сябе абавязаным стаць на месца Сяргея Ціханоўскага, якога тады ўжо арыштавалі. І так павінна быць. Гэта бой! — перакананая Таццяна Севярынец. — Што тычыцца зласліўцаў, то іх месца, як заўсёды, пад венікам — адтуль бяспечна гаўкаць. Я грэбую падобнымі, менавіта праз такіх разумнікаў мы і дакаціліся да стану Карэі. Людзі спалі, пахропваючы, 26 гадоў, прадралі вочы, моцна напалохаліся, што нехта іх кліча на барыкады. Тым больш, Павел клікаў да мірных пратэстаў, а гэтыя і на такое не здольныя».

У той жа час жанчына адчувае моцную падтрымку, вельмі ўдзячная праваабаронцам і журналістам.

«Вельмі чакаю, што больш рашуча і катэгарычна будуць дзейнічаць еўрапейскія палітыкі. А вось сярод саміх беларусаў яшчэ шмат хто не разумее, што за тое, што цяпер адбываецца, віна ляжыць на кожным з іх: маўчалі, дазволілі, цярпелі, гатовыя і далей цярпець, не адчуваюць, што далей за любое парушэнне, прамы позірк яны рызыкуюць атрымаць не суткі і штраф, а кулю ў патыліцу».

Працяг на стар. 6 »

# Хтосьці баіцца канкурэнтаў

Сяргей ПУЛЬША

**Канешне, толькі зацятыя аптымісты думалі, што Цэнтрвыбаркам зарэгіструе Віктара Бабарыку кандыдатам у прэзідэнты. Але, гледзячы на рэкордную колькасць подпісаў, сабраных у яго падтрымку, усе мы сталі крышачку аптымістамі. І думалі: «А раптам пракоціць?» Не пракаціла.**

Віктар Бабарыка не будзе кандыдатам у прэзідэнты. Адвакаты экс-банкіра сцвярджалі, што з дэкларацыяй аб даходах у прэтэндэнта на прэзідэнта ўсё ў парадку, але ЦВК пабачыў у яго кампаніі прыкметы «замежнай дапамогі».

Гэта вельмі дзіўная «замежная дапамога». Камітэт дзяржаўнага кантролю сцвярджае, што «злачынная група» здабывала злачынныя даходы, і незаконная дзейнасць Бабарыкі як «кіраўніка злачыннай групоўкі» «пацвярджаецца» канфіскаванымі матэрыяламі і допытамі падазраваных. Выявілі, што Бабарыка нібыта атрымаў незадэклараваныя 350 тысяч долараў ЗША.

Ярмошына нават пажартавала, што «хабар у падатковай дэкларацыі не пазначаецца».

Дзяржкантроль таксама сцвярджае, што Бабарыка незаконна выкарыстоўваў замежную фінансавую дапамогу падчас кампаніі — рэсурсы «Белгазпрамбанку», які на 99% належыць расійскім кампаніям. Некаторыя чальцы ініцыятыўнай групы працавалі ў гэтым банку і займаліся справамі выбарчай кампаніі ў працоўны час і з выкарыстаннем працоўных сродкаў, а гэта парушэнне Выбарчага кодэксу.

Але тут Ярмошына яўна парушыла прэзумпцыю невінаватасці. Суда над Бабарыкам не было, тое, што 350 тысяч долараў ягоныя — не даказана. Як не даказана і тое, што экс-банкір мае да гэтых грошай дачыненне. Што ж да выкарыстання рэсурсу «Белгазпрамбанка», то Бабарыка сышоў з яго да прэзідэнцкай гонкі. А калі так, ці можна выкарыстанне тэлефона лічыць «замежнай дапамогай»?

Адмоўлена ў рэгістрацыі было і Валерыю Цапкалу. З-за нібыта недахопу подпісаў. Нягледзячы на тое, што ўжо вядома, як камісіі «адбракоўвалі» подпісы за Цапкалу. Знаная гісторыя пра Фрунзенскі раён Мінска, калі камісія прызнала неадпаведнымі подпісы за Цапкалу 26 чэрвеня, у той час, як адказ ад адпаведных органаў, якія ажыццяўлялі гэтую праверку, тая ж камісія атрымала 27 чэрвеня.

Нягледзячы на тое, што ЦВК прызнала «тэхнічны збой» у Бабруйску і дадала прэтэндэнту каля трох тысяч подпісаў, на вынік гэта не паўплывала.

Сярод лідараў па зборы подпісаў кандыдаткай у прэзідэнты стала толькі Святлана Ціханоўская, якая пайшла ў кампанію замест арыштаванага мужа, і якая, падаецца, пакуль нават не ведае, што з гэтай рэгістрацыяй рабіць.

Астатнія прэтэндэнты, як і планавалася, былі зарэгістраваныя. Ганна Канапацкая выказала нават падзяку Ярмошынай, што не дзіўна — у яе, як і ў Андрэя Дзмітрыева, і ў Сяргея Чэрачаня, невядома адкуль узнікла некалькі дзясяткаў тысяч «лішніх» подпісаў. Ужо тады было зразумела: зроблена гэта не проста так.

Значная дэталь: ніводзін з прэтэндэнтаў, якім «дамалявалі» подпісы, якія яны не збіралі і не здавалі, не абскардзіў гэтую сітуацыю і не адмовіўся ад іх. А «дапісванне» галасоў нават «на нашу карысць» — такое ж парушэнне, як і дапісванне за апанента.

Цяпер вялікае пытанне, што будзе рабіць Святлана Ціханоўская, якая засталася адзіным сумленным (зыходзячы з працэдуры «дамалёўкі» подпісаў) кандыдатам у прэзідэнты з усёй кампаніі. Крок, які напрошваецца сам сабою — гэта аб'яднанне ў сваіх шэрагах камандаў Бабарыкі і Цапкалы. І тут магчымы інтрыгі.

Нерэгістрацыя Бабарыкі і Цапкалы большасцю інтэрнэт-аглядальнікаў расцэньваецца не як перамога, а як параза дзейнага кіраўніка краіны. Такая сітуацыя яскрава паказвае — Аляксандр Лукашэнка не можа выйграць выбары сумленна.

Лукашэнка збаяўся нармальнай канкурэнцыі. Ён выліваў на сваіх апанентаў тоны бруду і кампрамату, ён пасадзіў некаторых у вязніцы — але ўсё роўна напалохаўся і перастрахаваўся, не дапусціўшы Бабарыку і Цапкалу да кампаніі. Прычым, не дапусціўшы несумленнымі метадамі.

Такім чынам, дзейны кіраўнік краіны не выглядае ў вачах народа моцным лідарам, іміджу якога ён увесь час дамагаўся. Ён выглядае на «Сашу 3%»: баязліўцам, які, седзячы на троне, сапраўды, па яго ж словах, «ухапіўся за гэтае крэсла сінеючымі пальцамі». Нават закратаваныя людзі яго напалохалі да дрыжыкаў у каленках.

Можна намаляваць сабе колькі заўгодна працэнтаў на выбарах, і колькі заўгодна рабіць выгляд, што ты — пераможца. Але пытанне ў тым, хто ў гэта паверыць.

Страта ўнутранай легітымнасці — гэта не простыя словы. Калі кіраўнік дзяржавы не мае аўтарытэту сярод уласнага народа, яго ўказы, загады, распараджэнні, і нават законы выконваць не будуць. Кіраванасць краінай у такіх варунках — рэч сумнеўная. Да кожнага працоўнага па міліцыянту не прыставіш.

І калі ўрэшце нас дагоніць хваля чарговага фінансава-эканамічнага крызісу, прадказаць яе сацыяльны эфект пры адсутнасці ўнутранай легітымнасці кіраўніцтва, проста нельга. Можа быць усё: ад страйкаў да рэвалюцыі. І гэта не пагроза, гэта папярэджанне. Таму што адказны за гэта будзе ён — напалоханы баязлівец, які ўсімі сродкамі імкнуўся застацца пры ўладзе.

# Алег Гарбуз «Сам ён не сыдзе»

Іна СТУДЗІНСКАЯ, Радыё Свабода

**Актор Купалаўскага тэатра Алег Гарбуз разважае пра выбары і пра тое, што будзе пасля 9 жніўня.**

«26 гадоў пры ўладзе — гэта вельмі шмат. А сам ён не сыдзе. Ён як наркаман, у якога пачнецца ломка: ён будзе рабіць усё, каб атрымаць наступную дозу ўлады. Я сам наркотыкаў ніколі не ўжываў, але разумею, як гэта адбываецца: гэта як хімічны працэс у арганізме. Розумам чалавек, можа, і ўсведамляе, што годзе, надышоў час спыніцца. Але фізічна ён не можа гэтага зрабіць», — разважае актор Купалаўскага тэатру.

На яго думку, цяпер краіна «заточаная» толькі пад аднаго чалавека — дзейнага кіраўніка дзяржавы, які баіцца аддаць гэтую ўладу. А яму проста трэба гарантаваць, што ніякага пераследу не будзе, ён вольны выбіраць, дзе яму жыць, мяркуе актор. І як чалавек, не пазбаўлены пачуцця гумару, прапануе Лукашэнку два варыянты.

«Я б звярнуўся да кіраўніка дзяржавы з дзвюма прапановамі. Першая прапанова — проста каранавацца. Каб усе ведалі: будзе так да скону, інакш ужо не будзе, маўляў, "чакайце, калі я памру". Усе б змірыліся і чакалі.

Ці другое выйсце: у яго ж ёсць два самалёты. Сабраў бы сваіх сваякоў, атачэнне, грошы, мяркую, у яго ёсць, назапасіў. Паляцеў бы ў якую цёплую краіну, дзе ў яго ёсць сябры! Мог бы ездзіць па свеце, чытаць лекцыі.

А мы б з чыстага аркуша ўсё пачалі. Мы не прападзём, мы ж нармальныя людзі», — кажа Алег Гарбуз.

Улада не была гатовая да таго, што апошнім часам яе не надта шануюць у народзе. Яна думала, што будзе як заўжды — больш-менш спакойна. Улада не чакала такой актыўнасці кандыдатаў, вылучэння яскравых асобаў, не чакала масавых пратэстаў, кажа Алег Гарбуз.

«Ніводнаму нармальнаму чалавеку не можа падабацца тое, што цяпер адбываецца ў краіне. Мне здаецца, што і ўладзе наверсе гэта не падабаецца. Проста яна не ведае, як з гэтага выйсці прыстойным чынам, як захаваць твар.

Я думаю, што і тым, хто гэта вырабляе, таксама ўсё не даспадобы. Але яны пагадзіліся, што мусяць гэта рабіць. Хтосьці выбірае лёс кагосьці мучыць, а хтосьці ідзе іншай дарогай. Гэта свабода выбару. Яны выбралі такую дарогу.

Калі нічога не зменіцца кардынальна ў мазгах гэтых людзей, яны будуць дзейнічаць яшчэ больш жорстка, гэта відавочна. А потым пачнуцца зачысткі. Я не ведаю, як адрэагуе народ. Але мне вельмі страшна за сябе. Я баюся, што сам сарвуся, бо дужа эмацыйны чалавек», — кажа актор Купалаўскага тэатру Алег Гарбуз.

«Здаецца, мы ўжо на мяжы. Раней былі асобныя людзі, якім не падабалася тое, што адбываецца. Цяпер мы ведаем, што такіх людзей багата.

Ці выйдзе народ на плошчу, залежыць ад таго, як далей будуць развівацца адносіны ўлады і народу. Калі ўладзе ўдасца пазбегнуць такіх вострых момантаў, калі яна асцярожна пройдзе гэтай сцежкай і не выкліча вялізнай хвалі абурэння, можа, ёй удасца захавацца. А калі не, думаю, людзі ўжо ў тым стане знаходзяцца, што гатовыя выйсці. Не кожны першы, але кожны трэці дакладна. А гэта будзе ўжо хваля моцная.

Вельмі спадзяюся, што ў нас не дойдзе да крыві. Я ўпэўнены, што з боку народу, талерантных, памяркоўных, спакойных беларусаў, нічога такога не будзе. Толькі калі будзе правакацыя з боку ўладаў, можа пачацца завараха. А нашы людзі проста "зайкі" — паглядзіце, якія яны законапаслухмяныя, як яны пакорліва ідуць да аўтазакаў!

Вось рабочыя кажуць: "Выходзілі інтэлігенты, моладзь. А калі выйдзем мы, рабацягі: трактарны, МАЗ, БелАЗ — мала не падасца!"

Я спадзяюся, што хопіць мужнасці ў людзей ва ўладзе прызнаць, што іх час ужо падыходзіць да фіналу. І хацелася б абысціся без бою, без крыві», — выказвае надзею Алег Гарбуз.

# Пратэсты, затрыманні, сутычкі з міліцыяй

**Вечарам 14 ліпеня на вуліцы гарадоў Беларусі выйшлі людзі, незадаволеныя вынікамі рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты.**

Акцыі пратэсту прайшлі ў Мінску, Брэсце, Гомелі, Гродна, Магілёве. Пачаліся яны паўсюдна каля 19.00. У Мінску людзі збіраліся не толькі ў цэнтры, але і на ўскраінах: у Малінаўцы, Каменнай Горцы і нават у Новай Баравой. Удзельнікі выстройваліся ў ланцугі салідарнасці, ім сігналілі аўтамабілі, людзі ў адказ пляскалі ў ладкі. Акцыі суправаджаліся жорсткімі затрыманнямі, дзе-нідзе і сутычкамі з міліцыяй. Абышлося без затрыманняў толькі ў Гродне і Магілёве. Паводле інфармацыі праваабаронцаў, толькі ў Мінску было затрымана больш за 200 чалавек. Па ўсёй краіне затрымалі каля 300 чалавек.

У розных частках Мінска спачатку з'явіліся аўтазакі. Невялікія групы людзей сталі збірацца каля 19.00 у пачатку праспекта Незалежнасці і рухаліся да плошчы Якуба Коласа. Яшчэ адна група рухалася ад плошчы Якуба Коласа ў бок цырка. У акцыі ўдзельнічалі і веласіпедысты. Супрацоўнікі ДАІ перакрылі праспект Незалежнасці — ад плошчы Незалежнасці да вуліцы Казлова.

Затрыманні пачаліся практычна адразу. Больш за ўсё затрымлівалі ў раёне плошчы Перамогі, ля цырка, на Нямізе.

За тым, што адбываецца, назіралі намеснік кіраўніка МУС Аляксандр Барсукоў, кіраўнік ГУУС Мінгарвыканкама Іван Кубракоў і камандзір мінскага АМАПу Дзмітрый Балаба.

Каля 21.00 на праспекце Незалежнасці насупраць парку Горкага адбылася жорсткая сутычка пратэстоўцаў з міліцыяй.

Прыкладна а 23.00 некалькі соцень чалавек сабраліся на Нямізе: яны пляскалі ў ладкі, свісталі і крычалі «Ганьба!» і «Сыходзь!», сігналілі аўтамабілі. Затрыманні прайшлі і ў раёне Раманаўскай Слабады.

На працягу некалькіх гадзін былі зачыненыя шэсць станцый метро: «Кастрычніцкая», «Няміга», «Фрунзенская», «Плошча Перамогі», «Грушаўка» і «Маладзёжная».

Пэўны час на праспекце Незалежнасці (ад плошчы Якуба Коласа да плошчы Кастрычніцкая), Раманаўскай Слабадзе, Гарадскім Вале адсутнічала вулічнае асвятленне.

У Брэсце ланцуг людзей расцягнуўся ад скрыжавання з вуліцай Савецкай да скрыжавання з вуліцай Карбышава. Міліцыя пачала выцiскаць удзельнікаў. Ланцуг зноў стварылі на скрыжаванні праспекта Машэрава і бульвара Касманаўтаў. Пазней каля 80 чалавек сабраліся на скрыжаванні праспекта Машэрава і бульвара Шаўчэнкі.

Каля 70 чалавек сабраліся на скрыжаванні праспекта Машэрава і бульвара Касманаўтаў і пайшлі калонай да набярэжнай Францыска Скарыны. Калона з прыкладна 100 чалавек прайшла па вуліцы Гогаля да бульвара Касманаўтаў, скандуючы: «Сыходзь! Свабоду! Выпускай!»

У сем гадзін вечара ля Гомельскага цырка сабралася каля 50 чалавек. Але іх хутка разагналі супрацоўнікі міліцыі. На пытанне, чаму нельга гуляць, ад АМАПу былў атрыманы адказ: «Гуляць можна, але не тут». Пасля гэтага людзі зноў сабраліся ля фантана. Але іх зноў разагналі, папярэдзіўшы пра незаконнасць мерапрыемства.

У Гродне на Савецкай плошчы сабралася каля 200 чалавек. Людзі пляскалі, часам крычалі «Жыве Беларусь». Гродзенскія веласіпедысты зладзілі велапрабег і таксама прыехалі на плошчу.

Супрацоўнікі АМАПу знаходзіліся паблізу, але нікога не затрымлівалі. Паводле падлікаў журналістаў TUT.BY, на плошчу сабралася каля 300 чалавек.

У Магілёве каля гандлёвага цэнтра «Атрыум» сабралася некалькі дзясяткаў чалавек. Каля васьмі гадзін вечара АМАП разагнаў людзей. Абышлося без затрыманняў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Відэагульня для кіраўніка краіны

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Днямі кінастудыя «Дысней» павінна была выдаць у пракат фільм з цікавым сюжэтам. Згодна з ім, жыве сабе даволі паспяховы банкаўскі працаўнік — і ў яго ўсё добра. Да таго часу, пакуль ён не высвятляе, што насамрэч з'яўляецца толькі персанажам вялікай відэагульні, прычым — далёка не галоўным персанажам. Падаецца, нешта падобнае цяпер адбываецца з Аляксандрам Рыгоравічам. Нехта стварыў вакол яго ілюзорны свет, у якім краіна пад яго кіраўніцтвам проста квітнее.**

Азмрочваецца гэта, канешне, «злымі ворагамі», якія спрабуюць гэтую квітнеючую краіну ў яго забраць і прадаць-падзяліць. Але ж якая відэагульня без экшэну, так?

Адпаведна, усе дзеянні і выказванні кіраўніка Беларусі абумоўленыя той карцінай свету, якую выдаюць яму сцэнарысты віртуальнай рэальнасці. Напрыклад, наведваючы завод «Атлант» напрыканцы мінулага тыдня, Лукашэнка вынайшаў новы спосаб падвышэння народнага дабрабыту. «Я думаў пра зарплату, як будзем рухацца далей. Трэба ўзяць прыкладна 10 вядучых прадпрыемстваў краіны. Дапусцім «Атлант», МАЗ, БЕЛАЗ, якія маюць самы высокі ўзровень заробкаў. Наверсе — самы высокі, дзясятае — ніжэй. Узяць сярэдні заробак гэтых 10 і давесці да выканання ўсіх прыватнікаў», — гэтак правадыр краіны «паклапаціўся» пра тых, хто працуе ў прыватным сектары.

Зразумела, нічым, апроч «віртуалкі», нельга патлумачыць упэўненасць Лукашэнкі ў тым, што ў краіне «флагманы» — гэта дзяржпрадпрыемствы, што ў іх працоўных — годны заробак, што працаўнікам прыватных прадпрыемстваў горш, чым «дзяржаўнікам». Але ж рэальнасць — гэта не відэагульня.

Па-першае, паглядзім на фінансавыя паказчыкі нашых «флагманаў». «Атлант» пакуль не дае лічбы за 2019 год, а ў 2018-м яго чысты прыбытак склаў мінус 48,55 мільёна рублёў. То-бок, прадпрыемства стратнае. Увесь МАЗ за 2019 год зарабіў чыстага прыбытку 33 тысячы рублёў — каля 15 тысяч долараў. Хопіць, каб на ўвесь завод набыць адзін новенькі бюджэтны легкавік. Завод БЕЛАЗ скончыў 2019 год з чыстым прыбыткам 266 мільёнаў рублёў. Канешне, малайцы, хаця ў параўнанні з мінулым годам памер чыстага прыбытку скараціўся на 19%.

Па-другое, што да заробкаў, то ў «Атланце», які правадыр назваў «флагманам», гледзячы па вакансіях, самыя высокія заробкі ў бізнес-аналітыка і сістэмнага адміністратара — 1100 рублёў. Прыбіральшчык атрымае 450 рублёў, што ў суме дае сярэдні заробак на прадпрыемстве ў 775 рублёў (у прынцыпе, так і ёсць, калі глядзець па вакансіях), ці каля 320 долараў. Як кажуць, якая краіна — такія і «флагманы».

Па-трэцяе, праца прыватных прадпрыемстваў значна эфектыўнейшая за дзяржаўныя — гэта вядомы факт. Напрыклад, бюджэт Мінска амаль на тры чвэрці (!) — 73,1% — фарміруюць арганізацыі недзяржаўнай формы ўласнасці. Калі выконваць распараджэнне гаранта, то на шматлікіх прыватных прадпрыемствах заробак давядзецца зніжаць, а не падвышаць.

Ну і, канешне, пытанне рубам: а як жа словы пра тое, што «заробак павінен быць зароблены»? Мы ўжо адмовіліся ад гэтай цалкам слушнай ідэі?

Ці, напрыклад, Аляксандр Рыгоравіч заклапаціўся экалогіяй. Яшчэ на сустрэчы з «актывам Мінскай вобласці» ён назваў

**Праца прыватных прадпрыемстваў эфектыўнейшая за дзяржаўныя — гэта вядомы факт. Калі выконваць распараджэнне гаранта, то прыватнікам заробак давядзецца зніжаць, а не падвышаць**

пераход на электрамабілі адной з асноўных задач будучай пяцігодкі. А на тым жа «Атланце» сказаў, што «ў нашых электрамабілях пакуль толькі адна асноўная праблема — імпартныя батарэі. Але нашы спецыялісты знайшлі новыя прынцыпы стварэння гэтых батарэй, якія ў свеце не вядомыя». Агенцтва БелТА ўдакладніла, што гаворка ідзе не пра традыцыйныя літый-іённыя, а пра графенавыя акумулятары.

Між тым, «невядомыя ў свеце» графенавыя батарэі можна проста цяпер набыць у Мінску. Яны ўжо даўно выкарыстоўваюцца як у аўтамабілях, так і ў іншых галінах — напрыклад, у ветраэнергетыцы. А сёлета Samsung абяцае выпусціць на рынак і першы тэлефон з графенавым акумулятарам.

Цалкам магчыма, што Аляксандру Рыгоравічу ўкінулі ў яго віртуальны свет нейкі рэальны прататып (нават не абавязкова беларускі), выдаўшы гэта за «невядомую ў свеце навінку».

Увогуле, пражэктаў такога кшталту ў кіраўніка Беларусі было багата. Танны айчынны легкавік так і не быў выпушчаны, нягледзячы на ўсе спробы з «Самандамі» і «Джылі». Сетка пакрыцця 5G па Беларусі так і не запрацавала. Заробак «па 500 у эквіваленце» так і застаўся марай. Электрамабілі — з той жа серыі.

Для добрых аўтамабіляў патрэбныя добрыя дарогі. І пра гэта нагадаў гарант, адкрываючы мост праз Сож у Слаўгарадскім раёне. «Да абласных цэнтраў мы зрабілі дарогі. Цяпер трэба прывесці ў парадак да раённых цэнтраў. Гэта абавязкова мы павінны скончыць. І дадаткова ад раённых цэнтраў да аграгарадкоў, — сказаў ён. — Без дарог у нас жыцця няма. Гэта і настрой людзей, і эканоміка, і транзіт, на якім мы хочам зарабіць».

Канешне, усё гэта можна зрабіць, і гэта робіцца. Напрыклад, таксама нядаўна стала вядома, што на рэканструкцыю аўтадарогі М3 (Мінск–Віцебск) і рамонт мастоў грошы нам дасць Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. На гэтыя мэты будзе выдаткавана 259 мільёнаў еўра — самы вялікі праект ЕБРР у Беларусі.

Зноў жа, узнікаюць пытанні. Калі, паводле Лукашэнкі, мы «зрабілі дарогі да абласных цэнтраў», навошта нам браць грошы ў ЕБРР на тое, што зроблена? А што да дарог у райцэнтры, то ў Беларусі была створана працоўная група для выпрацоўкі прапаноў па развіцці мясцовых аўтамабільных дарог. Яна павінна была ўнесці прапановы аб аб'ёмах, умовах і крыніцах фінансавання мерапрыемстваў па развіцці мясцовых аўтамабільных дарог і парадак вызначэння аб'ектаў і ўмоваў выканання работ па развіцці мясцовых аўтамабільных дарог.

Праўда, усё гэта павінна было адбыцца тры гады таму — у лютым 2017 года. Я нават упэўнены, што планы па развіцці мясцовых аўтадарог былі выпрацаваныя, аб'ёмы, умовы і крыніцы фінансавання ўзгодненыя ў азначаны тэрмін. Шмат хто за гэта атрымаў прэмію да немалога заробку. Але ўсё гэта так і засталося на паперы, перайшоўшы ў віртуальны свет відэагульні для Аляксандра Рыгоравіча.

І чаму за тры гады нічога не было зроблена — сапраўды пытанне. Як і пытанне, ці будуць выкананыя абяцанкі ў наступнай пяцігодцы, альбо яны — толькі частка віртуальнага свету?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Сяргей Ціханоўскі

**Народны блогер напісаў ліст пенсіянерцы, з якой пазнаёміўся на пікеце ў Гродна.**

Ветэран працы, 81-гадовая гродзенка, дацэнт Галіна Піліпаўна Андрэйчык праславілася на ўсю краіну, калі 29 траўня ў Гродна дала кранальнае інтэрв'ю Ціханоўскаму. У сярэдзіне чэрвеня Галіна Піліпаўна напісала ліст Ціханоўскаму ў СІЗА, нагадала пра сустрэчу. Амаль праз месяц, 10 ліпеня, ёй прыйшоў адказ, напісаны 1 ліпеня.

Сяргей прызнаўся, што ліст Галіны Піліпаўны «крануў яго да слёз». Ён паведаміў, што 1 ліпеня яму ўпершыню перадалі лісты, усяго 62. Сярод іх быў і ліст пенсіянеркі.

«Я ўспамінаю нашу сустрэчу не раз, седзячы ў СІЗА. Вельмі рады, што вы напісалі і ліст да мяне... Перш за ўсё прашу вас берагчы здароўе, я абяцаю прыехаць да вас дадому, як вы хацелі, і пазнаёміцца з сынамі», — напісаў Ціханоўскі.

«Беражыце сябе і не хвалюйцеся. Вельмі рады нашаму знаёмству. Калі я сустракаю такіх людзей, як вы, я ганаруся, што я беларус», — скончыў ліст блогер.

А тым часам яго трэці раз змясцілі ў карцар СІЗА №1 — за тое, што не пагаліўся. «У яго на дадзены момант пяць спагнанняў: папярэджанне, вымова і тры разы змяшчэнне ў карцар. За што яму вынеслі папярэджанне і вымову, я не ведаю», — распавяла Святлана Ціханоўская.

Праваабарончыя арганізацыі Беларусі прызналі Сяргея Ціханоўскага палітычным зняволеным.



## Гітанас Наўседа

**Прэзідэнт Літвы напісаў пабеларуску зварот да ўладаў нашай краіны ў Twitter. Чамусьці ўсе зазначылі гэты факт, а не змест допісу.**

Утвіце Наўседа кажа: «Беларусы зазналі балючыя наступствы Чарнобыля, таму звяртаюся да кіраўніцтва (тут у допісе малюнак афіцыйнага сцяга Беларусі. — Аўт.) з заклікам не запускаць не адпавядаючую патрабаванням стрэс-тэстаў ЕС Астравецкую АЭС і не падвяргаць жыхароў (зноў афіцыйны сцяг Беларусі. — Аўт.) і наваколльных краін небяспецы. Круоніская ГАЭС не будзе выкарыстоўвацца на патрэбу Астраўца».

13 ліпеня літоўскі прэзідэнт наведаў Круоніскую ГАЭС. «Мне было важна высветліць, ці можа КГЭС выкарыстоўвацца як рэзерв для БелАЭС. Я атрымаў усе запэўніванні, што і ў тэхнічным, і ў юрыдычным сэнсе гэтага слова гэты аб'ект не будзе выкарыстоўвацца як рэзерв для БелАЭС», — заявіў ён журналістам. Наўседа падкрэсліў, што не бачыць перадумоў таго, што БелАЭС можа працаваць бяспечна.

Літва лічыць станцыю пагрозай нацыянальнай бяспецы. Нашая суседка збіраецца спыніць імпарт электраэнергіі з Беларусі, калі БелАЭС будзе запушчана без выканання рэкамендацый па выніках стрэс-тэстаў. Раней Літва звярталася ў МАГАТЭ і асабіста да кіраўніка Еўракамісіі Урсулы фон дэр Ляйен і старшыні Еўрапейскага савета Шарля Мішэля з просьбай умяшацца ў сітуацыю вакол БелАЭС.



## Андрэй Курэйчык

**Міністэрства культуры пакуль адмовілася здымаць экранізацыі кніг «Радзіва "Прудок"» Андруся Горвата і «Сфагнум» Віктара Марціновіча.**

Карціны былі замоўленыя міністэрствам у студый «Першая КінаВідэаКампанія» і «Дэмарш-фільм» у выніку конкурсу кінапраектаў. Беларусы вельмі ўзрадаваліся, што «Радзіва "Прудок"» можна будзе паглядзець, але выявілася, што радавацца рана.

Праблема — у скарзе кампаніі сцэнарыста і рэжысёра Андрэя Курэйчыка і Тэлевізійнага прадзюсарскага цэнтра на выніку тэндара дзяржзакупак у Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. Паводле Курэйчыка, цана лотаў, якія абвяшчае Мінкульт, у разы перавышае рэальныя рынкавыя цэны на вытворчасць кіно ў Беларусі, і кампаніі, якія выйграюць тэндары, проста «распілоўваюць» грошы.

Кінасупольнасць падзялілася на два лагеры: адны падтрымліваюць Курэйчыка, другія стаяць на баку пацярпелых рэжысёраў і праектаў, якія абяцалі стаць сапраўды цікавымі.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# У кожнага сваё Сярэднявечча




**У Амерыцы ваюють з помнікамі. У Амерыцы ваююць з мінулым. Але не толькі з помнікамі і не толькі з мінулым, бо заадно падпальваюць аўтамабілі, разбіваюць вітрыны крамаў і марадзёрствуюць. Няпроста знайсці мяжу паміж палітычным пратэстам і пратэстам сацыяльным, што пераходзіць у бунт бессэнсоўны і бязлітасны. Дый ці ёсць яна, гэтая мяжа, калі ўсё змяшалася ў доме самага дэмакратычнага ў свеце дзядзькі — Дзядзькі Сэма?**

З песні слоў не выкінеш. Чытачам, што знаёмыя з гісторыяй чарнаскурай Амерыкі па кнізе Гарыет Бічэр-Стоў «Хаціна дзядзькі Тома» (1852) не так проста зразумець, на чым баку сёння праўда. А ў тым, што яна адназначна павінна быць на чым-небудзь баку, сумнявацца не даводзіцца. Мы так выхаваныя. Мы жывем у свеце, у якім хто не з намі, той супраць нас.

## Патрабуюцца мільёны ўнікальных асобаў

У савецкай школе і ў савецкім універсітэце мне тлумачылі, што галоўнай супярэчнасцю нашага часу з'яўляецца супярэчнасць паміж светам сацыялізму і светам капіталізму. У 1991 годзе на нашай тэрыторыі свет сацыялізму сканаў. Разам з ім знікла і галоўная супярэчнасць.

Ці азначае гэта, што цяпер мы жывем у бесканфліктным свеце? Калі паслухаць адзінага палітыка (АП), то паверыць у гэта даволі складана. Беларусь — самастойны, інтэлектуальны і развіты канкурэнт усіх гэтых Францый і Германій разам узятых. Да таго ж мы не спім у шапку, і таму здольныя своечасова выявіць «усе падводныя плыні, схаваныя пад маскай шчырай дапамогі». А каму гэта можа спадабацца?

Такі вось погляд на праблему з акна Палаца Незалежнасці. Але я жыву не ў палацы, а ў стандартным дзевяціпавярховіку, што не перашкаджае мне мець па ўсіх пытаннях і праблемах уласнае (незалежнае) меркаванне. Жыў бы ў Драздах, трымаў бы яго пры сабе. Але Бог збярог.

Аднак вернемся да галоўнай супярэчнасці. Тыя, каму пашанцавала пазнаёміцца з азбукавымі паліталагічнымі ісцінамі ў юнацтве, а не ў перадпенсійным узросце, сцвярджаюць, што такой з'яўляецца супярэчнасць паміж культурамі, што дынамічна развіваюцца, і культурамі ў мінімальнай ступені здольнымі да самастойнага развіцця.

**Эканоміка — гэта не штукі, кубаметры і тоны прадукцыі, вырабленыя на новых прадпрыемствах. Безумоўна, усё пералічанае мае дачыненне да эканомікі, але далёка не ў першую і ў другую чаргу. Эканоміка — гэта перш за ўсё людзі. А людзі не існуюць па-за культурай**

Вынік гэтай супярэчнасці — бездань паміж першымі і другімі, і яна ўвесь час паглыбляецца. Яе можна ацаніць колькасна. Калі да пачатку прамысловай рэвалюцыі ў Еўропе, згодна з разлікамі англійскага статыстыка Ангуса Мэдысана, краіны-лідары па ВУП на душу насельніцтва апярэджвалі адсталыя краіны ў 4 разы, то сёння — больш чым у 100 разоў!

Прыкладам культуры, што не ўпісваецца ў дынамічную сучаснасць, з'яўляецца іслам. У ісламе няма месца для індывіда як каштоўнасці, а суб'ектам развіцця ва ўсе часы з'яўлялася асоба. Нездарма апалагеты беларускай мадэлі, так любяць разважаць пра ўнікальную асобу АП, «які згуртаваў вакол сябе пераважную частку грамадства, паказаў простыя і ясныя шляхі нашага развіцця» (Анатоль Рубінаў, акадэмік).

Я хоць і пагаджуся з акадэмікам, але ад сябе дадам, што для ўстойлівага развіцця адной унікальнай асобы будзе замала. Патрабуюцца мільёны.

## Вецер пераменаў з Мінскага мора

Той, хто хоча і можа, шукае магчымасці. Астатнія шукаюць і знаходзяць апраўданні. Прыгадаем гісторыю дрэннага танцора, якому ўвесь час нешта замінае. Гэтая гісторыя справядлівая як на індывідуальным узроўні, так і на ўзроўні культур. Універсальным апраўданнем для дрэнных танцораў з'яўляюцца ворагі. Для прыхільнікаў ісламу — гэта амерыканцы. Для чорных у Амерыцы — гэта белыя.

Амерыка — лідар сучаснага развіцця. Але з гэтага факту не вынікае, што ўсе амерыканцы працуюць у Крэмніевай даліне. Унутры Амерыкі адбываецца той жа працэс падзелу на тых, хто шукае магчымасці, і тых, якія знаходзяць апраўданні. Апошнія і ваююць з помнікамі тых, хто, на іх думку, вінаваты ва ўсіх несправядлівасцях сучаснага свету.

Важная практычная выснова з амерыканскіх падзей палягае ў тым, што з іх культурных рамак не так і проста вырвацца. Мая былая прыехала ў Амерыку ў канцы 1990-х гадоў з дзвюма сотнямі долараў і мінімальным веданнем мовы. Але яна шукала магчымасці — і праз пяць гадоў набыла дом у Нью-Джэрсі за паўмільёна долараў (зразумела, у крэдыт). Цяпер у свае 68 гадоў вымушаная працаваць, нягледзячы на каронавірус і іншыя пошасці. З адной пенсіі крэдыт не сплаціць, але гэта ўжо іншая гісторыя.

З культурных рамак не так і проста вырвацца. Аднак калі вельмі хочацца, то ўсялякі лёгкі павеў ветрыку на беразе Мінскага мора прымаецца за вецер пераменаў. Адсюль пастаянныя развагі пра тое, што «мы прачнуліся ў іншай краіне». Такое калі і магчыма, дык толькі пасля дыванован бамбардзіроўкі ядзернымі бомбамі. Колькі, аднак, застанецца тых, каму пашчасціць прачнуцца, і ці будзе ім сэнс прачынацца?

Іслам — культура, арыентаваная на падтрыманне стабільнасці, а не на развіццё. «Каран, у адрозненне ад Святога пісання іншых рэлігій, — тлумачыць эканаміст Уладзімір Ліпаў, — не настаўляе на шлях веры, а ўжо зыходзіць з яе. Ён — кіраўніцтва да дзеяння, да актыўнага ўмяшання ў жыццё. Тут можна знайсці бытавыя правілы і павучанні, распараджэнні, якія рэгулююць маёмасныя, сямейныя, прававыя адносіны».

Ісламу чужая канцэпцыя падзелу царквы і свецкай улады. Таму не варта здзіўляцца заяве былога вярхоўнага лідара Ірану, аяталы Рухола Хамейні пра тое, што «іслам — гэта палітыка, і без яе ён нішто». Але і праваслаўе з яго сімфоніяй ад ісламу недалёка адышло.

Як тут ні працытаваць АП: «У нашай краіне адносіны свецкай і духоўнай улады будуюцца па прынцыпе сімфоніі, гэта значыць, гарманічнага саюза і сумеснай працы на карысць Айчыны. Беларусь паспяхова развівае супрацоўніцтва з нашай праваслаўнай царквой».

Прынцып сімфоніі, калі хто не ведае, быў упершыню пакладзены ў аснову адносін свецкай і духоўнай улады імператарам Візантыі Юстыніянам I ў VI стагоддзі, а дасягаўся ён на практыцы за кошт падпарадкавання царквы дзяржаве. Ні для дзяржавы, ні для царквы ён ніколі нічым добрым не заканчваўся.

## Прыхільнікі рэформаў могуць расслабіцца

Прорва паміж развітымі краінамі і іх галоўным канкурэнтам — Рэспублікай Беларусь — павялічваецца з кожным годам. Ці ўсведамляюць наяўнасць гэтай прорвы ў Палацы Незалежнасці? Мяркую, што не толькі ўсведамляюць, але і выношваюць планы, каб скараціць адставанне. 10 ліпеня мностваm гэтых планаў АП падзяліўся з працоўным калектывам ЗАТ «Атлант»: «Мы павінны скласці пералік — Дзяржаўную праграму, дзе будуць прапісаныя новыя вытворчасці. Гэта будзе пералік новых прадпрыемстваў».

Наш курс на найбліжэйшую пяцігодку застанецца нязменным: мы стваралі, ствараем і будзем ствараць новыя тэхналагічныя вытворчасці. Таму прыхільнікі так званых рэформаў могуць расслабіцца.

Але эканоміка — гэта не штукі, кубаметры і тоны прадукцыі, вырабленыя на новых прадпрыемствах. Безумоўна, усё пералічанае мае дачыненне да эканомікі, але далёка не ў першую і ў другую чаргу. Эканоміка — гэта перш за ўсё людзі. А людзі не існуюць па-за культурай.

Не магу адмовіць сабе ў задавальненні, каб не прывесці фрагмент раздзела «Поўнач супраць Поўдня» з кнігі экскіраўніка Федэральнай рэзервовай сістэмы ЗША Алана Грынспена «Капіталізм у Амерыцы»: «93% важных вынаходак, запатэнтаваных у ЗША паміж 1790 і 1860 гадамі, былі зробленыя ў так званых свабодных штатах (г. зн. на Поўначы. — Рэд.), прычым амаль палова — у Новай Англіі. Янкі ўжывалі сваю вынаходлівасць усюды, куды яны маглі дацягнуцца.

Гэта масавая прага вынаходніцтва і стварыла вялікую краіну, якая выклікае сёння нянавісць у тых, хто не здольны да развіцця. Гэтай нянавісцю ахоплена і частка жыхароў краіны вынаходнікаў. Яны актыўна пілуюць галіну, на якой сядзяць, ды хочуць вярнуцца ў архаічнае сярэднявечнае мінулае».

# Леў Марголін: «У Беларусі фальсіфікаваць выбары нескладана»

Маргарыта ТАРАЙКЕВІЧ

**Да дня прэзідэнцкіх выбараў засталося менш за месяц. А датэрміновае галасаванне пачынаецца яшчэ раней. Ні для каго не сакрэт, што галасы на выбарах даўно не лічацца. Пра тое, як у Беларусі фальсіфікуюцца выбары, «Новы Час» паразмаўляў з Львом Марголіным, нацыянальным каардынатарам кампаніі назірання «Права выбару».**




***— Расійскія даследчыкі кажуць, што фальсіфікацыя выбараў — не такая простая справа, як здаецца, асабліва калі на выбарчыя ўчасткі прыходзіць шмат людзей, якія галасуюць не так, як хацелі б улады. Наколькі цяжкай працай з'яўляюцца фальсіфікацыі выбараў у беларускіх умовах?***

— У Беларусі фальсіфікаваць выбары зусім не складана. Калі ў Расіі ўкідваюць бюлетэні, то ў Беларусі фальсіфікуюць пратакол. Старшыня камісіі заносіць у пратакол лічбы, якія яму «спусцілі зверху».

У Расіі ў склад выбарчых камісій уваходзяць прадстаўнікі апазіцыйных партый. У нас людзей ад апазіцыі ў камісіях няма. І ўвогуле выпадковых людзей там няма, выпадковым людзям не даюць прайсці ў склад выбарчых камісій. Там людзі, якія гэтым займаюцца не першы год.

***— Хіба там сядзяць адны зацятыя фальсіфікатары?***

— Простыя чальцы камісіі могуць самі лічыць бюлетэні сумленна. Але яны не ведаюць лічбаў у выніковым пратаколе. Яны лічаць толькі сваю частку бюлетэняў і аддаюць лічбы старшыні. Старшыня гэтыя лічбы нібыта заносіць у пратакол, і дае ім падпісаць яго. Але яны не бачаць, адкуль бяруцца іншыя лічбы ў пратаколе, які яны падпісваюць. Кожны з іх бачыць толькі свае лічбы, але не бачыць лічбаў іншых чальцоў камісіі, і не можа праверыць інфармацыю ад іх.

У іншых краінах сарціроўку бюлетэняў вядзе адзін член камісіі, які дэманструе бюлетэні ўсім прысутным і агучвае прозвішча кандыдата, за якога аддадзены голас. У нас лічбы не абвяшчаюць уголас, а даюць старшыні на паперцы.

***— Што нам рабіць, каб абцяжарыць для ўладаў задачу фальсіфікацыі выбараў? Ці робяць больш складанай гэтую задачу спробы, няхай сабе і няўдалыя, трапіць у склад камісіяў, а таксама спробы назіраць за выбарамі?***

— Назіранне абцяжарвае фальсіфікацыі. Дзякуючы назіральнікам за 26 гадоў існавання гэтага рэжыму міжнародная супольнасць не прызнала ніводныя беларускія выбары сумленнымі і празрыстымі. А калі б не было назірання, улады маглі б зрабіць так, каб міжнародная супольнасць прызнала выбары дэмакратычнымі: запрасілі б міжнародных назіральнікаў, зрабілі б для іх некалькі ўзорных участкаў... Але, дзякуючы назіральнікам, рэжым не здолеў легітымізаваць сфальсіфікаваныя вынікі выбараў. Таксама абцяжарваюць фальсіфікацыі спробы прадстаўнікоў незалежнай грамадскасці трапіць у камісіі і абскарджванне адмоваў.

Але цяперашняя сітуацыя кардынальна адрозніваецца ад ранейшай. Калі раней у нас было толькі два назіральнікі на прыблізна 300–350 участкаў, то-бок па 600–700 назіральнікаў на прыкладна 70 тысячаў сяброў камісій, — то цяпер у нас некалькі тысячаў чалавек хочуць назіраць за выбарамі. Калі на кожным участку будзе па два, тры, чатыры, а то і пяць-сем назіральнікаў, і яшчэ будуць стаяць людзі на вуліцы, гэта будзе аказваць псіхалагічны ціск на чальцоў камісіі. Пад гэтым псіхалагічным ціскам, ці, можа, наадварот — у выніку гэтай маральнай падтрымкі, — некаторыя чальцы камісіі могуць вырашыць адмовіцца ад удзелу ў фальсіфікацыях.

Да таго ж, можна аказаць вялікае ўздзеянне на чальцоў камісій, калі не толькі апазіцыя будзе заахвочваць іх працаваць сумленна і не ўдзельнічаць у фальсіфікацыях, але калі гэтае ж самае будуць казаць іх суседзі, родныя і знаёмыя. Фактар грамадскага ціску вельмі значны, і пад яго ўплывам сістэма можа зламацца. Рэжым моцны, але калі ён у нейкім месцы трашчыць, то трашчыць увесь.

Аднак, каб перашкодзіць фальсіфікацыі выбараў, чальцам камісіі мала толькі рашучасці і сумлення: яны павінны ведаць, што ім рабіць, каб процідзейнічаць фальсіфікацыям. Патрэбна, каб чалавек адмовіўся падпісваць пратакол, у лічбах якога не ўпэўнены; каб ён запатрабаваў зверыць лічбы ў ім з лічбамі ад усіх чальцоў камісіі; каб ён сфатаграфаваў гэты пратакол... Урэшце, ён мае права пералічыць галасы, бо ён падпісвае за агульныя вынікі галасавання, а не за свой стос бюлетэняў. З гэтай мэтай мы рыхтуем інструкцыі для чальцоў камісій і размесцім іх на сайце кампаніі «Права выбару», а таксама будзем перадаваць гэтую інфармацыю праз незалежныя СМІ.



Фота www.racyja.com

***— То-бок, на вашым сайце можна будзе лёгка знайсці інфармацыю, якую можна будзе даваць чальцам камісій, каб «узброіць» іх на выпадак, калі яны захочуць працаваць належным чынам?***

— Так.

***— А ці можна недзе знайсці кантакты ўсіх чальцоў камісій, каб заахвочваць іх праявіць прынцыповасць і перашкодзіць фальсіфікацыі выбараў?***

— А вось гэта — самае цікавае пытанне! Іх кантакты не знойдзеш, нідзе ў адкрытым доступе няма ані іх месца жыхарства, ані нават месца працы. Фармальна чальцы камісіі накіроўваюцца ад розных арганізацый. Але на практыцы — камісіі фарміруюцца па вытворчай прыкмеце: усе чальцы камісіі працуюць разам.

**Увесь спадзеў — на людзей, якія асабіста ведаюць чальцоў камісій: іх родных, суседзяў, знаёмых, сяброў. Палохаць не варта, але трэба казаць, што ім і іх дзецям у гэтай краіне жыць далей**

Таму ўвесь спадзеў — на людзей, якія асабіста ведаюць чальцоў камісій: іх родных, суседзяў, знаёмых, сяброў. А таксама на незалежныя СМІ. Палохаць не варта, але трэба казаць, што ім і іх дзецям у гэтай краіне жыць далей.

***— Калі нехта з чальцоў камісіі будзе супраціўляцца фальсіфікацыям, што яму за гэта можа пагражаць?***

— Ніякіх небяспекаў, акрамя адной: могуць звольніць з працы.

***— Звальненне з працы ва ўмовах Беларусі, дзе няма значнай грашовай дапамогі беспрацоўным, — таксама значная небяспека. А якія ёсць юрыдычныя магчымасці абараніцца ад гэтай небяспекі?***

— Гэта залежыць ад таго, калі заканчваецца кантракт. Калі ён заканчваецца хутка, то пры нашай кантрактнай сістэме яго могуць папросту не працягнуць.

***— У Расіі Шульман і Кац распавядаюць, што, акрамя назірання за выбарамі, ёсць яшчэ статыстычныя метады выяўлення фальсіфікацый. Ці ёсць магчымасць у Беларусі выявіць фальсіфікацыі з дапамогай статыстычнага аналізу вынікаў выбараў?***

— Статыстычныя метады праверкі ў Беларусі не працуюць. Бо, калі ў Расіі ёсць участкі, на якіх у склад камісіі уваходзяць прадстаўнікі апазіцыі, і менавіта з данымі па іх можна параўноўваць іншыя даныя, то ў Беларусі такіх участкаў няма, ўсе камісіі падкантрольныя рэжыму.

У Беларусі мы можам кантраляваць толькі яўку, і толькі на тых участках, на якіх ёсць назіральнікі: калі яўка, паводле падліку назіральнікаў, склала 45 працэнтаў, а ў выніковым пратаколе пазначаныя 60 працэнтаў, то бачна, што ёсць неадпаведнасць, ёсць фальсіфікацыі. Але быў ці не быў чалавек на ўчастку — гэта можна адсачыць, толькі калі нехта падлічвае гэта; то-бок, у выпадку калі ёсць назіральнікі.

Аднак, акрамя незалежных назіральнікаў, у нас ёсць таксама назіральнікі праўладныя: напрыклад, ад «Белай Русі», ад БРСМ. Яны нічога не робяць. І, калі незалежны назіральнік нешта абскарджвае — прыходзіць адказ, маўляў, мы апыталі іншых назіральнікаў, і яны вашу інфармацыю не пацвярджаюць.

***— У гэтую выбарчую кампанію зноў паўстала тыповая дылема: «удзел ці байкот». Таму хачу запытацца: як пратварыць кожны з гэтых варыянтаў нашых электаральных паводзінаў у маленечкі крок да дэмакратызацыі Беларусі? Як правільна ўдзельнічаць, і як правільна байкатаваць?***

— Тут ёсць розныя рэцэпты. Ёсць рэцэпт Бабарыкі: фатаграфаваць свой бюлетэнь разам з пашпартам, каб на фота былі бачныя і нумар бюлетэню, і нумар пашпарту, і такім чынам публічна засведчыць свой голас, каб яго немагчыма было сфальсіфікаваць. Ёсць, з іншага боку, рэцэпт Паганяйлы: адрываць кавалак бюлетэню з подпісамі чальцоў камісіі, каб бюлетэнь павінен быў лічыцца сапсаваным, і забіраць гэты кавалак з сабою, каб потым прад'яўляць яго як доказ (можна ананімны) свайго байкоту выбараў. Прапануюцца розныя рэцэпты, і я не бяруся казаць, які з іх найбольш эфектыўны.

***— З якімі крыніцамі інфармацыі, з якімі даследаваннямі вы прапануеце азнаёміцца, каб прыняць найбольш свядомае рашэнне наконт свайго ўдзелу ці байкоту, і каб максімальна выкарыстаць выбары для дэмакратызацыі Беларусі?***

— Не магу раіць даследаванні: я не тэарэтык, а практык. Але, калі вы хочаце пазмагацца за сапраўдныя дэмакратычныя выбары, вы можаце на сайце кампаніі «Права выбару» знайсці інфармацыю, як зрабіцца назіральнікам і як правільна назіраць за выбарамі.

# «Павел, трымайся, мы побач»

« Заканчэнне. Пачатак на на стар. 1


Затрыманне, 16 красавіка 2009 г. Фота Юрыя Дзядзінкіна

## Вольга Севярынец: «Знаходжу сілы ў бясконцай падтрымцы знаёмых і незнаёмых людзей»

Жонка Паўла Вольга Севярынец кажа, што не адчувае недахопу ў падтрымцы.

«Вялікая колькасць людзей падтрымлівае яго і нашу сям'ю, людзі пішуць заявы па розных інстанцыях, прапаноўваюць дапамогу, у мяне мноства паведамленняў у сацсетках ад незнаёмых людзей, грамадскія арганізацыі,



міжнародная супольнасць амаль штодзённа выступаюць з заявамі і патрабаваннямі вызваліць палітвязняў, у тым ліку Паўла. Міжнародная Амністыя прызнала яго вязнем сумлення. Яго імя ўзгадваюць на самых высокіх узроўнях. І я вельмі ўдзячная кожнаму, хто прыкладае любыя высілкі ў напрамку вызвалення і падтрымкі палітвязняў», — зазначае Вольга.

Каментуючы папрок жонкі арыштаванага блогера Сяргея Ціханоўскага Святланы, што беларусы слаба падтрымліваюць яе мужа, Вольга Севярынец мяркуе, што кандыдатка ў прэзідэнты вельмі хоча, каб ахвяры яе сям'і і асабіста Сяргея былі не дарэмныя.

«Гэтая пара неверагодна годна і прыгожа праходзіць праз каласальныя цяжкасці. І вельмі хочацца, каб цярпенне Ціханоўскіх, Бабарыкаў, Севярынцаў, Статкевічаў, Навумікаў і многіх іншых смелых людзей не было дарэмнае, а натхніла многіх-многіх беларусаў вырашыцца і перамагчы».

Узгадваючы свой досвед, Вольга Севярынец кажа, што лісты і паштоўкі да вязняў часам прапускаюць, таму пісаць іх варта. Любая вестка з волі — гэта вялікая падтрымка для тых, хто за кратамі.

«Звычайна прапускаюць лісты палітычна нейтральныя і не занадта эмацыйныя, — адзначае Вольга. — Мае лісты Паўлу перадавалі ўсяго некалькі разоў, бо ад жонкі зняволенаму атрымаць ліст асабліва прыемна, а сістэма такога дапусціць не можа. Таму я пішу, але няшмат. Паўлу апошнія гады пісаць лісты ў адказ не даюць, але ён па выхадзе заўсёды дзякуе ўсім, хто яму пісаў».

На наступны дзень пасля таго, як Севярынца пасадзілі ў ізалятар на Акрэсціна, раптоўна ўтварылася эпідэміялагічна неспрыяльная абстаноўка і любыя перадачы забаранілі. Цяпер іх зноў прымаюць.

«Праўда, па маіх уражаннях, перадачы прымаюць пад настрой: часам адно бяруць, другое — не, наступны раз наадварот — гэта прынялі, тое — не. Газеты, кнігі, асадку і паперу — самае чаканае для Паўла — апошнія разы прымалі, але мы ведаем, што так і не перадалі».

Павел сядзіць на Акрэсціна ўжо другі месяц, за гэты час яго некалькі разоў судзілі, дадаючы новыя суткі. На знак пратэсту супраць умоваў утрымання палітык нават парэзаў сабе руку. Усю гэтую сітуацыю, з улікам адсутнасці інфармацыі пра стан роднага чалавека, блізкім перажываць надзвычай цяжка.

«Знаходжу сілы ў Богу, у нашым каханні, у сям'і і сябрах, у бясконцай падтрымцы знаёмых і незнаёмых людзей. Таксама ў веры, што кожнае цярпенне мае сэнс. Гэтым разам мне вельмі складана — думкі ўвесь час пра Паўла, пра тое, як ён там, як яму дапамагчы тут», — дзеліцца жонка вязня.

Яна, як і маці, найбольш трывожыцца за здароўе мужа.

«Выканаўцы загадаў ужо перайшлі мяжу — яны трымаюць людзей у халодным карцары тыднямі, без вады, душа, асабістых рэчаў. Вольга Нікалайчык перахварэла на сутках на бранхіт. Баюся, што Паша змучаецца там без нармальнага сну, у холадзе, з вошамі, пад пастаянным ціскам. Стараюся пра гэта не думаць і малюся, каб нішто кепскае яго не кранулася».

Не так даўно Вольга Севярынец запісала зварот да «людзей сістэмы», заклікаючы іх не выконваць злачынныя загады і захоўваць чалавечнасць.

«Я веру ў іх чалавечнасць, бо бачу іх вочы і заручальныя пярсцёнкі на руках. У сістэме працуюць розныя людзі. Я стараюся быць чалавечнай да іх і ставіцца да іх з павагай, і здараюцца моманты, калі і яны адказваюць мне тым жа. Да гэтага часу думаю пра міліцыянта з Савецкага суда, які ўступіўся за мяне на апошнім судзе над Паўлам, шкадую, што не падышла да яго і не падзякавала».

7 ліпеня з Акрэсціна вызвалілі Вольгу Нікалайчык, у яе засталіся недаседжаныя 28 сутак. Былі спадзяванні, што вызваляць і Паўла Севярынца, але замест гэтага яму дадалі яшчэ 15 сутак.

«Паша — лідар, а цяпер любы лідар зможа сабраць на вуліцы вялікую колькасць людзей, таму, думаю, ніхто яго да выбараў вызваляць не збіраецца», — мяркуе Вольга Севярынец.

Яна падлічыла, што палітык будзе сядзець да 21 жніўня. Жанчына вельмі спадзяецца, што пасля вызвалення іх жыццё будзе больш спакойным, такім, як раней, і яны змогуць аддаваць сваё сілы на сям'ю, сяброў і будаванне лепшай Беларусі.

«Але загадваць цяжка, і лепш быць гатовым да ўсяго. Рэжым становіцца ўсё больш жорсткім і не мае ніякай міласэрнасці да тых, хто займае цвёрдую пазіцыю і не баіцца».

Пакуль Вольга распавядае маленькаму сыну Францішку, чаму тата цяпер не побач. Стараецца часта казаць яму, што тата вельмі сумуе па ім і вельмі яго любіць.

«Калі Францішак капрызіць, кажу, што трэба быць цярплівым, як тата. Мы вучымся гаварыць для таты новыя словы і запамінаем усе Францішкавы дасягненні, каб пасля ўсё таксама распавесці тату. Вельмі чакаю моманту, калі Паша зможа зноў узяць Францішка на рукі, бо ведаю, што па ім ён сумуе найбольш».

Вольга прызнаецца: калі Павел не побач, яе жыццё быццам запавольваецца, губляе смак.

«Я малюся, каб час чакання нашай сустрэчы скараціўся. Першае, што мне хочацца зрабіць пасля вызвалення, — гэта абняць Пашу, паглядзець яму ў вочы, каб упэўніцца, што ўсё добра, і сказаць яму, што я кахаю яго яшчэ больш».

## Ганна Севярынец: «Далей — толькі трыццаць сёмы год»

Сястра палітыка Ганна Севярынец распавядае, што заўжды падтрымлівала брата ў яго ўдзеле ў вызваленчым руху, а вось у метадах — не заўсёды.

«Я чалавек больш лагодны і схільны да кампрамісаў, і па маладосці мы з ім шмат спрачаліся па розных пытаннях. Цяпер, канешне, амаль не спрачаемся,



так, супастаўляем пазіцыі. Цяпер я разумею, што для цэльных людзей кшталту нашага Паўла немагчыма быць непахісным у сваім змаганні — і адначасова кампрамісным у метадах», — заўважае Ганна Севярынец.

Яна ўзгадвае першыя братавы арышты, калі спачатку Павел трапіў на суткі, а потым і ў СІЗА на Валадарскага. Абодва разы спадарыня Ганна была непасрэднай удзельніцай падзей, бо тады, як і брат, вучылася ў Мінску, жыла з ім у адным інтэрнаце, а сувязь з бацькамі ў сярэдзіне дзевяностых была не такой хуткай, як цяпер.

«Першы раз мой удзел заключаўся ў тым, каб хаваць яго па прыватных кватэрах маіх аднакурснікаў: мы ўжо былі амаль "дэмбелі", пяты курс, шмат хто жыў па-за інтэрнатам. Па маладосці гэта падавалася значна больш рамантычным, чым цяпер. Ну, а калі ўжо ён трапіў на Валадарку, здаецца, за ўдзел у пратэстах супраць "Дня единения России и Беларуси", першы раз па крымінальным артыкуле (здаецца, гэта называлася "быць баклана", то-бок ісці па "хуліганцы"), нашы мама з татам якраз былі ў санаторыі ў Сочы, першы раз за ўсё іх жыццё. І мы з сястрычкай вырашылі ім нічога не казаць. Яны, бедныя, сядзелі сабе ў няведанні ў Сочы, а мы тут разграбаліся з гэтым усім: і з перадачамі, і з адвакатамі, і з судамі. Тады я ўпершыню трапіла на допыты да следчага, упершыню пасядзела ў чэргах да кіраўніцтва на Валадарцы, але тады ж я перазнаёмілася з усім тагачасным "Маладым Фронтам", які імгненна і без маіх просьбаў аднекуль знаходзіў мне і машыны, каб ездзіць, і грошы, каб плаціць адвакату, і даваў такую нечуваную падтрымку, што я па сённяшні ўспрымаю іх, ужо дарослых людзей, сваімі сябрамі».

Па словах сястры вязня, умовы ўтрымання ў зняволенні рэдка бываюць вынослівымі, але жахліва тое, што грамадства ўжо неяк прызвычаілася да гэтага. І да таго, што інфармацыю блізкім трэба літаральна вытрасаць з пенітэнцыярных установаў, і што часцяком родны чалавек выходзіць адтуль з вошамі ці каростай, і да таго, што пасля ў яго жудасна баліць галава тыднямі, і да таго, што творыцца ў судах.

«Але такога, каб літр вады на дзень, бясконцы карцар і такая колькасць сутак запар — гэта, канешне, канчатковае азвярэнне ўлады», — зазначае Ганна Севярынец.

Калі палітык парэзаў сабе руку — гэта быў пратэст, знак таго, што сітуацыя выходзіць далёка за межы не тое што дабра і зла, але і проста — за межы таго зла, якое можна сабе ўявіць.

«Я б хацела, каб гэтае змаганне нарэшце скончылася нашай агульнай перамогай, бо далей няма куды. Далей — толькі трыццаць сёмы год».

Ці варта было Паўлу Севярынцу выходзіць на пікет 7 чэрвеня? Ганна Севярынец мяркуе, што гэта той выпадак, калі яна не мае права ўказваць брату, што і як рабіць. Ён робіць тое, што лічыць патрэбным, — са сваім досведам у палітыцы, са сваім разуменнем учынкаў.

«Адно магу сказаць: цяпер такі час, калі невядома, што і як спрацуе, што будзе мець водгук, што будзе мець вынік. Ніхто цяпер не можа спрагназаваць, ад чаго, калі і як наш звыклы цягнік пратэсту саскочыць, нарэшце, са звыклых рэек — і падымуцца людзі. Таму цяпер важна, каб кожны рабіў учынкі — малыя і вялікія, спрэчныя і бясспрэчныя, хто на што здольны. Я ўсё хачу, каб мы перасталі дзяліцца на "старых" і "маладых", у нас адна мэта, і ў нас адзін шлях — шлях смелых учынкаў. Між іншым, калі заглядаць крыху наперад, я упэўненая: мы пераможам не тады нават, калі на свае ўчынкі стануць здольныя публічныя людзі гераічнага складу. Краіна зменіцца тады, калі свае невялічкія, але надзвычай важныя ўчынкі зробяць тыя маленькія і наскрозь запалоханыя людзі, якія з'яўляюцца чальцамі выбарчых камісій. І калі гучныя ўчынкі з'яўляюцца бессэнсоўнымі самі па сабе, але правакуюць кожнага на свой уласны ўчынак — яны павінны быць».

Сястра палітыка не адчувае ніякай несправядлівасці ў тым, што яе брат столькі гадоў ідзе насуперак сістэме, у той час як людзі, якія цяпер «абудзіліся», спакойна жылі і рабілі бізнес.

«Я дзесяць гадоў адпрацавала ў бізнесе, у аптовым гандлі. Гэта не тое, што можна назваць "жыць прыпяваючы". Бізнес у нашай краіне — гэта вельмі і вельмі няпросты і небяспечны шлях. І нерваў там, і небяспекі, у тым ліку турэмнай — не нашмат менш. Я ведаю і сярод дзеячоў старой апазіцыі тых, хто жыў і жыве прыпяваючы ў тыя часы, калі Павел бясконца сядзіць. Тут справа не ў нейкіх палітычных плынях альбо пакаленнях, а ў людзях. А ўвогуле, калі не перабіраць назапашаных за 26 гадоў крыўдаў, змаганне старых праклала сцежкі і шляхі. Тым, хто змагаецца цяпер, прасцей — менавіта таму яны больш моцныя, маюць пад сабой грунт, нейкія напрацаваныя метады, набор нейкіх рэакцый. Яны моцныя за кошт сваёй маладосці, сваёй нябітасці, але і за кошт таго, што ідуць пракладзенымі шляхамі. І дзякуй Богу, што яны ідуць!» — перакананая суразмоўца.

Калі б брат мог яе пачуць, яна б сказала яму:

«Павел, трымайся, мы побач. Што б ні адбылося, ёсць мы, ёсць родавае гняздо — вёска Унорыца, ёсць наш род, нашы сваякі, жывыя і мёртвыя, гэта наша зямля, і мы адсюль нікуды не сыдзем і не з'едзем, хаця б і неба падала ў Дзвіну».

Але ён гэта і так ведае, дадае спадарыня Ганна.

# Наста Паліенка: Я не люблю, калі грукаюць у дзверы

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Анархісту Змітру Паліенку 8 ліпеня ў судзе Першамайскага раёна прысудзілі 15 сутак арышту за размешчаны ў фэйсбуку допіс з заклікам прыняць удзел у флэшмобе — па вечарах бразгаць з адчыненых вокнаў і балконаў пустымі рондалямі. У той жа дзень яго апыталі ў межах заведзенай крымінальнай справы па абразе супрацоўніка міліцыі.**

Мы паразмаўлялі з жонкай Змітра Настай пра тое, чаму міліцыянты не пакінуць хлопца ў спакоі, як прызвычаіцца да пастаяннага прэсінгу, а таксама чым жыве і пра што марыць сям'я анархістаў.

***— Наста, што цяпер вядома пра Змітра?***

— У ЦІП і ІЧУ да позняга вечара мне казалі, што яго няма. Раніцай (9 ліпеня. — НЧ.) я пазваніла ў ЦІП — адказалі, што няма, а ў ІЧУ сказалі, што перадамяць, толькі калі я прыеду з пашпартам. Я адразу зразумела, што, верагодна, ён там. Я прыехала да 10-й раніцы да ІЧУ, і мне сказалі, што ён у іх. У дзве гадзіны я зноў была ля ІЧУ з перадачай, але некалькі разоў мне казалі чакаць. Я прачакала прыкладна 40 хвілін, і потым міліцыянт выйшаў і сказаў, што Зміцер адмаўляецца ад перадач. Я запыталася, у чым справа, а мне адказвалі — чакайце начальніка ІЧУ, мы не хочам браць на сябе адказнасць, ён будзе разбірацца з гэтай сітуацыяй. Дзіма не планаваў галадоўку і казаў мне, што будзе прымаць перадачы, бо ў яго ад мінулых галадовак праблемы са страўнікам. Таму я сказала начальніку ІЧУ — значыць, вы нешта з ім зрабілі, можа, збілі моцна, і ён пратэстуе. На што мне адказалі: «Ну што вы нагаворваеце, мы тут нікога ніколі не б'ем. Хіба ён прыходзіў да вас без пальцаў?». Прыходзіў без зубоў, з паламанымі рэбрамі, са страсеннем мозгу — але так, з пальцамі. Начальнік пайшоў, праз нейкі час вяртаецца і кажа, што Дзіма ад перадач адмовіўся, але просіць інгалятар, бо ён астматык. Таксама начальнік сказаў, каб перадала не прадукты, у выніку перадала зубную пасту, шчотку, тапкі і інгалятар.

Пакуль не зразумела, адбывае ён там суткі ці знаходзіцца па крымінальнай справе да прад'яўлення абвінавачвання. Спадзяюся, адвакату ўдасца з ім сустрэцца.

***— А адкуль узялася гэтая крымінальная справа?***

— Пакуль дакладна сказаць не магу. Але міліцыянты, якія прыязджалі да нас раніцай і якіх я здымала (у 7 гадзін раніцы 8 ліпеня ў двор, дзе пражываюць Паліенкі, увайшлі некалькі супрацоўнікаў міліцыі з Маскоўскага РУУС у цывільным, якія хацелі «пагаварыць» са Змітром. — НЧ.), былі потым на судзе. Я не ведаю, навошта яны прыязджалі, гэта вельмі дзіўна. Калі б ужо была крымінальная справа, яны б так не размаўлялі. Яны б проста прыйшлі і затрымалі яго. А тут я бегала за імі цэлую раніцу, здымала, а яны проста стаялі. У выніку выпісалі нейкую позву, у якой было сказана з'явіцца «для ўдзелу ў правядзенні праверачных мерапрыемстваў». Але такіх працэсуальных дзеянняў не існуе.

Я зразумела, што яго будуць затрымліваць, калі Дзіма вырашыў сысці з суда, і яго пачалі хапаць. Яго першы раз кудысьці звезлі і там збівалі — ён паказваў раны на руках і ледзьве ішоў. І, калі збівалі, сказалі, што ў яго «крыміналка». Дзіма камусьці сказаў, што гэта нібыта за 20 чэрвеня. Я зайшла ў яго фэйсбук і за гэты дзень убачыла карцінку, як у Амерыцы паліцэйскі стаіць каленам на галаве ў цемнаскурага пратэстоўца, а побач — карцінка, дзе інспектар ДАІ стаіць каленам на галаве ў чалавека падчас затрымання ў Ганцавічах. І подпіс, што, маўляў, выradкі ёсць паўсюль.

***— У той жа дзень пасля суда ў вас правяліператрус. Што хацелі знайсці?***

— Яны хацелі знайсці тэхніку. Як чалавек, у якогаператрус быў неадноўчы, я адразу разумею, што шукаюць. Напрыклад, падчас мінулых вобшукаў забіралі налепкі, улёткі, чыталі назвы кожнай кнігі ў доме, запытваліся ў Дзімы, што за кніга, ці не экстрэмісцкая яна, чыталі і забіралі ўсе дакументы і лісты. Гэтым разам усё было па-іншаму. Яны ўбачылі, што на стале стаіць манітор, а сістэмнага блоку няма, ляжыць зарадка ад ноўтбука, але яго самога няма. Яны вывернулі шафы — думалі, што мы там схавалі тэхніку. Перакулілі ложак. За ім ёсць невялікая камора, мы ёй не карыстаемся, але шукалі там. На гарышчы ў Вольгі Нікалайчык (пара жыве ў доме грамадскай актывісткі і рэжысёркі. — НЧ.) стаяла сумка ад яе камеры і пакунак са старымі тэлефонамі, правадамі — усё гэта вывалаклі і перабіралі, астатняе не чапалі.

**Я проста падтрымліваю ідэі свабоды і роўнасці, людзям не абавязкова мець над сабой нейкага ўмоўнага лукашэнку, каб самаарганізоўвацца і рабіць разам нейкія рэчы на месцах**

Забралі толькі мой тэлефон, бо я трымала яго ў руках.

***— Чаму Дзіму не пакідаюць у спакоі?***

— Цяпер затрымліваюць усіх, хто праяўляе нейкую актыўнасць — блогераў, актывістаў, адміністратараў тэлеграм-каналаў. І Дзіму пад гэтую хвалю сабраліся ізаляваць на час выбараў.

***— У яго ж яшчэ не скончылася «хімія» па мінулай справе.***

— Так, хутчэй за ўсё, цяпер у яго будзе парушэнне, і рэшту свaёй хатняй «хіміі» ён можа паехаць адбываць на зону. Але ў яго засталося не так шмат.



Фота з Фэйсбуку Насты Паліенкі

***— А якія ў цябе прыярытэты?***

— Калі мне было гадоў 13, я жыла ў аграгарадку, яны тады толькі з'яўляліся, набудоўвалі гэтыя дамкі. Лукашэнка казаў пра адраджэнне вёскі, а я бачыла, што, па-першае, гэтыя дамкі развальваюцца — кулак між сценаў можна было прасунуць. Па-другое, праца не з'явілася, грошы ў людзей — таксама, у калгасе каровы паміраюць з голаду. І я пачала задумвацца, у чым праблема. Мне хочацца, каб людзі маглі жыць так, каб накіроўваць свае сілы на развіццё, чытаць кнігі, займацца грамадскай дзейнасцю. А ў іх проста есці няма чаго — канешне, яны думаюць толькі пра тое, каб гэтую ежу недзе дастаць, а не пра будучыню для сваіх дзяцей і краіны. Мне хочацца, каб гэта змянілася і каб кожны чалавек мог выказацца.

***— Ты са шматдзетнай сям'і, як бацькі ставяцца да тваёй пазіцыі і дзейнасці?***

— Мае бацькі ў разводзе, я жыла з мамай, я ў яе самая старэйшая. Яна мяне падтрымлівае. Яна сама жыве ў вёсцы, ёй трэба гадаваць дзяцей і высільвацца, каб арганізаваць для іх нейкі мінімум. І яна разумее, чаму так адбываецца. Яна хвалюецца, але прымае мой выбар.

А тата спрабаваў мяне наставіць на «правільны шлях», але не атрымалася, і цяпер ён прымае тое, што я — дарослы чалавек і сама ў стане вырашыць, чым займацца.

***— Давай вернемся да вас з Дзімам. Вы пазнаёміліся ў 2017 годзе ў Курапатах. Як пачаліся вашыя стасункі?***

— Калі мы былі ў Курапатах, я ведаю, што спадабалася Дзіму. Але тады я пачала сустракацца з Сяргеем Пальчэўскім (актывіст «Маладога Фронту», які прыкаваў сябе кайданкамі да МАЗа падчас абароны мемарыяла ад будаўніцтва бізнес-цэнтра ў 2017 годзе. — НЧ.), і Дзіма не стаў рабіць ніякіх крокаў. Потым яго пасадзілі, і я перапісвалася з ім. Калі яго вызвалялі з Бабруйска, я вырашыла яго сустрэць. Мы сталі стасавацца ўжывую, бо да гэтага — толькі ў лістах, і неяк сышліся. А потым само сабой атрымалася, што мы цяпер жанатыя.

***— А як ты далучылася да анархісцкага руху?***

— Мы з Дзімам абмяркоўвалі розныя палітычныя плыні, і мне стала блізкая яго пазіцыя. Не магу сказаць, што я нейкая канкрэтная анархістка ці анарха-камуністка, ці яшчэ нехта. Я проста падтрымліваю ідэі свабоды і роўнасці, людзям не абавязкова мець над сабой нейкага ўмоўнага лукашэнку, каб самаарганізоўвацца і рабіць разам нейкія рэчы на месцах. Калі б была большая свабода дзеянняў, усё было б прасцей, і людзям было б цікава нешта рабіць.

Я думаю, што знаходжуся яшчэ ў асэнсаванні. Бо з гадамі чалавек мяняецца, мяняюцца яго погляды на жыццё.

***— А чым ты ўвогуле займаешся, цікавішся?***

— У мяне ёсць спецыяльнасць, яна абсалютна не цікавая — тэхнік-тэхнолаг харчовай вытворчасці, парфумерыі і касметыкі. Размеркаванне адпрацоўвала на заводзе, ледзьве дачакалася завяршэння адпрацоўкі. Я проста не хацела губляць свой час на ВНУ. Я магла б паступіць на якую-небудзь гуманітарную спецыяльнасць, але не хацела вучыцца на беспрацоўнага. Бо маіх здольнасцей хапала на настаўніка малодшых класаў, эколага — хацела нават паступаць у інстытут імя Сахарава. Але вырашыла, што на заводзе я буду мець больш шанцаў на працу.

Раней я захаплялася экалогіяй, у мяне была навуковая праца па вывядзенні цяжкіх металаў з глебы. Я досыць пахапова займалася гэтым у школе, ездзіла на конкурсы, нават перамагала. Але, пераехаўшы ў Мінск, я не знайшла навуковага кіраўніка, таму ўсё закінула.

А цяпер крыху малюю, граю на гітары, люблю хадзіць у паходы.

***— А чым бы табе хацелася займацца?***

— Я хацела б з'ехаць з гораду, купіць дамок у вёсцы і сядзець там. Але Дзіма гэтага не хоча, ён гарадскі жыхар. Я думала пра тое, што можна купіць дом у глыбінцы сабе, сябрам і адкінуць ад сябе існаванне дзяржавы як такой. Вунь, бабулькі ў вёсках — у іх жа ўвогуле свой свет. Я не кажу, што я — як бабулька, я проста хацела б абстрагавацца і сысці падалей. Але я не змагу ведаць, што столькі людзей церпяць за свае перакананні, — і сядзець адпачываць. Думаю, калі з'явіцца нейкая адэкватная альтэрнатыва сённяшняму становішчу ў Беларусі, я б з'ехала. Такое жаданне збегчы ад усяго, ад нерваванняў, якія не праходзяць проста так. Гэта ўсё адбіваецца на здароўі — эмацыйным і фізічным. Бывае цяжкавата перажываць.

***— Здаецца, што вы са Змітром — вельмі розныя па характары. Як вы ўжываецеся разам?***

— З рыпеннем! (Смяецца) Мне хочацца Дзіму ўберагчы ад усіх яго «прыгодаў». Ён увесь час імкнецца нешта рабіць, кудысьці бегчы, штосьці пісаць, запісваць нейкія ролікі. А я ўвесь час яго тузаю: «Дзіма, што ты робіш, цябе ж пасадзяць!» А ён адказвае: «А што рабіць?».

Але я ведала, ува што ўвязваюся. Ён мне прапанову рабіў з клеткі. Дык што я павінна была чакаць? Ён мне гэтым і спадабаўся. Я на Курапатах не магла ўсачыць за ім. Я, канешне, не такая актывістка, як ён.

***— Як ты зараз перажываеш яго зняволенне?***

— Магчыма, гэта прагучыць жахліва, але я не перажываю. Мы да гэтага былі гатовыя. Адзінае, хвалююся, каб яго не збівалі, каб ён не галадаў. А так — для нас гэта ўсё ўжо звычайна. Калі ў Дзімы быў першы ператрус, я нават спалохацца не паспела, бо мяне разам з ім забралі. Другі ператрус я перажывала вельмі эмацыйна. Потым я некалькі месяцаў не магла нармальна заснуць. Калі правальвалася ў трывожны сон, я падрывалася, хапала свой тэлефон і хавала яго пад матрац. І чула званкі ў дзверы і грукат. І толькі праз некаторы час я прыходзіла ў сябе і разумела, што стаю пасярод пакоя, апранаюся — а нікто не грукоча, тры гадзіны ночы. Я вельмі баюся званкоў у дзверы, у мяне з'явілася фобія. Я ўвесь час дзёргаюся і не люблю, калі грукаюць у дзверы.

***

Як стала вядома 10 ліпеня, у гэты дзень над Змітром Паліенкам зноў адбыўся суд, вынік якога не паведамілі. Пра тое, што Змітра асудзілі другім разам, Насце сказалі ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. Жонка актывіста мяркуе, што, верагодна, яму далі яшчэ 15 сутак. Адвакату трапіць да Змітра Паліенкі пакуль не ўдалося.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Пляжы і трансгендары

У гарадскім савеце Нюрнберга задумаліся наконт праблемаў трансгендараў — людзей, чыя гендарная ідэнтычнасць не супадае з полавымі прыкметамі, якія яны атрымалі пры нараджэнні. На думку некаторых дэпутатаў, прадстаўнікі гэтай катэгорыі цалкам пазбаўленыя магчымасці наведваць гарадскія пляжы. Асноўная прычына ў тым, што прыбіральні разлічаныя на мужчын і жанчын, і гэтая сітуацыя «дыскрымінуе» трансгендараў. Асабліва пакутуюць ад такой практыкі мужчыны, якія лічаць сябе жанчынамі. Іх з'яўленне ў жаночых прыбіральнях выклікае скандал. Вырашаць праблему збіраюцца за кошт асобных пляжных клазетаў для трансгендараў. А вось мясцовыя Зялёныя прапанавалі ісці іншым шляхам — увесці раз на тыдзень спецыяльны дзень, калі пляжы будуць адчыненыя толькі для асобаў згаданай вышэй арыентацыі. Праўда, як тэхнічна арганізаваць допуск на пляжы выключна трансгендараў, незразумела. Зрэшты, праблема пляжаў — гэта яшчэ дробязь у параўнанні з праблемай турмаў. У 2018-м паведамлялася пра выпадак у Англіі, калі мужчына, які лічыў сябе жанчынай, быў асуджаны за сексуальныя злачынствы і пераведзены ў жаночую турму. Там ён хутка стаў ахвярай такога брутальнага гвалту з боку вязняў-жанчын, што папрасіўся назад у мужчынскую калонію.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ШАТЛАНДЫЯ. Праз самаізаляцыю — да незалежнасці

Групоўка шатландскіх нацыяналістаў правяла скандальную акцыю каля аўтамабільнай трасы на англа-шатландскай мяжы. Удзельнікі пікету трымалі лозунг: «Ідзіце назад!». Ён быў адвачна адрасаваны англічанам, якія заязджалі на тэрыторыю шатландскай аўтаноміі. Таксама пікет быў пасланнем для рэгіянальнага ўраду, які фарміруе Шатландская нацыянальная партыя (SNP). Нягледзячы на сваю незалежніцкую рыторыку, урад SNP ніяк не адважыцца закрыць мяжу з Англіяй, што, на думку некаторых, магло б палепшыць эпідэміялагічную сітуацыю ў рэгіёне. Акрамя таго, ізаляцыя ад Англіі магла б узмацніць ідэю магчымага існавання незалежнай Шатландыі. Зрэшты, кіраўніца ўрада Нікола Стэрджан з такім падыходам не згодная, хаця прызналася, што не выключае такія захады, як каранцін для англічанаў. Застаецца дадаць, што брытанскі прэм'ер Борыс Джонсан лічыць нават думку пра магчымасць англа-шатландскай мяжы «дзіўнай і ганебнай».

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Пчолы ідуць у камуністы

Нечакана адной з галоўных падзей у кніжным свеце Расіі стала прэзентацыя кнігі «Энцыклапедыя юнага пчаляра». Справа ў тым, што яе аўтарам стаў лідар камуністаў Генадзь Зюганаў, які апошнім часам канфліктуе з Крамлём. Прычым цікавасць Зюганава да пчол аказалася прадыктаваная не толькі жаданнем за кошт любімага хобі нейк перыядычна расслабіцца, дыстанцыявацца ад свету бруднай палітыкі. У адным з інтэрв'ю Зюганаў пагадзіўся з тэзісам, што пчолы з'яўляюцца камуністамі, і растлумачыў яго: «Сацыяльная арганізацыя ў пчол на вышыні. Усе працуюць. Яны — самыя лепшыя, самыя таленавітыя працаўнікі. Усе падпарадкоўваюцца агульным правілам, там свая радзільня, свая ахова». Хаця пчоламі-камуністамі справа можа не скончыцца. Магчыма, прыкметы існавання па прынцыпах камунізму хутка будуць выяўленыя ў кветак, якімі Зюганаў таксама вельмі цікавіцца.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Гарэм кожнаму!

Дзяжурныя сенсацыйныя навіны з-за акіяну. Жыхары Самервілю, штат Масачусэтс, цяпер могуць легальна мець больш за аднаго каханага партнёра, які таксама будзе лічыцца сябрам сям'і. Такія правы мясцовыя жыхары набылі пасля новага распараджэння гарадской рады, сябры якога аднагалосна падтрымалі легалізацыю так званых поліаморных шлюбаў — шлюбаў, калі чалавек любога полу можа мець некалькіх партнёраў таксама любога полу. Неабходнасць рэформы, па словах мэра, прадыктаваная цяперашняй эпідэміяй. Каханкі вельмі часта трапляюць у шпіталі з цяжкімі праявамі каранавіруса. У выніку яны паміраюць, так і не рэалізаваўшы мару свайго жыцця — заключыць шлюб з партнёрам. Пакуль, праўда, больш за ўсё радуюцца новаму закону не каханкі, а мясцовыя нелегальныя мігранты. Па логіцы, цяпер будзе дастаткова запісацца ў нейкую поліаморную сям'ю, каб быць законнымі жонкай або мужам грамадзяніна ЗША і, адпаведна, мець права на знаходжанне ў краіне. Імігрантаў нават не палохае, што пытаннямі міграцыі ў Злучаных Штатах займаюцца федэральныя ўлады. Лічыцца, што прыклад Самервілю хутка будзе прыцягальным для іншых, у тым ліку нацыянальных, заканадаўчых органаў ЗША.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# Далёкаўсходняя настальгія

Алег НОВІКАЎ

**Мітынгі ў Хабараўску, дзе людзі пратэстуюць супраць арышту губернатара, аднавілі цікавасць да спадчыны Далёкаўсходняй Рэспублікі (ДВР), і нават да перспектывы яе адраджэння.**

Вяртанне ў актуальны палітычны дыскурс тэмы ДВР, безумоўна, успрымаецца як рэнесанс ідэй далёкаўсходняга сепаратызму. Аднак тут ёсць важны нюанс. Напаўлегендарнае дзяржаўнае фарміраванне ДВР (1920–1922 гады) было народжанае Масквой для сваіх тактычных манеўраў, і той жа Масквой затым ліквідаванае. ДВР спатрэбілася бальшавікам выключна як буфер для прадухілення прамога ваеннага канфлікту з Японіяй і вываду замежных войскаў з тэрыторыі Далёкаўсходняга краю. Гэта значыць, ідэя незалежнасці ці шырокай аўтаноміі рэгіёну менш за ўсё рухала аўтарамі праекту ДВР, які сёння ўспрымаецца выключна як сепаратысцкі.

Як міф пра тое, што ДВР была ледзь не асобнай дзяржавай, прапісаўся ў калектыўнай свядомасці жыхароў Далёкага Усходу? Збольшага, гэтаму, безумоўна, спрыяў савецкі маскульт. У папулярным фільме «Сэрца Бонівура» або кнізе Юліяна Сямёнава «Пароль не патрэбны» пра прыгоды маладога Штырліца, Далёкі Усход на мяжы 1920-х гадоў выглядае вельмі не падобным на іншую — як бальшавіцкую, так і «белую» — Расію. Асабліва ў кантэксце таго, што тут існуе вольны друк і праходзяць шматпартыйныя выбары.

У тым ліку на гэтай глебе паўстаў феномен, калі многія жыхары Прымор'я і Хабараўскага краю, што адчуваюць сябе пакрыўджанымі цэнтрам, успамінаюць пра буферную рэспубліку пачатку 1920-х гадоў.

Як вынік, клуб аматараў рэстаўрацыі ДВР вельмі прадстаўнічы і стракаты. Сюды, напрыклад, у нулявыя гады ўваходзілі працаўнікі павышэння мытных збораў на імпартныя (як правіла, японскія) машыны. Паколькі ў перапродаж патрыманых аўтамабіляў была ўцягнутая значная частка насельніцтва, мноства людзей тады выйшлі на вуліцы. Жорсткі разгон АМАПам адной з акцый пратэстаў у 2010-м стварыў цэнтру вельмі дрэннае паблісіці. У нейкі момант, паводле апытанняў, большасць рэзідэнтаў абласцей Далёкага Усходу выступалі за аддзяленне ад Расіі, і нават (калі верыць прэсе) за аб'яднанне з Японіяй!

Настальгія па ДВР характэрная і для ўсіх мясцовых апазіцыйных груповак — ад лібералаў да камуністаў, і нават расійскіх нацыяналістаў. Так, на базе хабараўскай антыпуцінскай групоўкі «Далёкаўсходняя альтэрнатыва» быў распрацаваны «Маніфест далёкаўсходніка», у якім прапаноўвалася арганізаваць рэферэндумы для ўзбуйнення суб'ектаў федэрацыі шляхам стварэння Далёкаўсходняй Рэспублікі (ДВР) у складзе Расіі.

**Клуб аматараў рэстаўрацыі ДВР вельмі стракаты. Настальгія па ДВР характэрная для ўсіх мясцовых апазіцыянераў — ад лібералаў да камуністаў, і нават расійскіх нацыяналістаў**

А вось украінскія СМІ, якія маніторацъ апазіцыйныя плыні ў Расіі, у якасці важнага чынніка сепаратызму на Далёкім Усходзе разглядаюць мясцовы крымінал. Калі ім верыць, мясцовыя «браткі», што сядзяць на кантрабандзе з Кітая, гатовыя для абароны бізнесу нават фінансаваць палітычны рух за аўтаномію. Дарэчы, наяўнасць на Далёкім Усходзе вялікай этнічнай групоўкі украінцаў — так званы «Зялёны клін», — часам дае падставы кіеўскім палітыкам марыць пра жоўта-блакітны сцяг над Уладзівастокам.

Наступная асобная катэгорыя аматараў ДВР — рэгіянальныя чыноўнікі, якія патрабуюць ад Крамля большай ступені эканамічнай аўтаноміі ад цэнтра для прыходу замежнага інвестара з Кітая ці Японіі. Іх канцэпт у тым, каб Далёкі Усход стаў своеасаблівай «буфернай зонай» паміж цэнтральнай Расіяй і азіяцка-ціхаакіянскімі цывілізацыямі. Адзін з мясцовых кіраўнікоў, Аляксандр Галушка, у 2014 годзе адкрытым тэкстам заклікаў да аднаўлення ў якасці «эканамічнага тамбура» Далёкаўсходняй Рэспублікі. «Памятаеце, у 20-я гады мінулага стагоддзя тут была Далёкаўсходняя Рэспубліка... Што перашкодзіць Расіі стварыць гэты буфер тут зноў?» — пытаўся чыноўнік.

Найбольш незвычайнымі фанатамі ДВР з'яўляліся так званыя «Прыморскія партызаны» — групоўка, якая, абвясціўшы сябе барацьбітамі з карупцыяй, пачала ўлетку 2010-га вяршыць справядлівасць па сваіх паняццях ажно да забойства міліцыянтаў і сапраўднай лясной партызанкі. Палітычная падаплёка дзеянняў злачынцаў была вельмі каламутнай. Усю віну за «тэрор на нашай зямлі» пракламацыі лясных браткоў ускладалі на «сусветнае закулiссе», якое, нібыта, дзейнічае рукамі міліцыянтаў, пракурораў і суддзяў. Так ці інакш, у маніфесце прысутнічаў пункт аб неабходнасці адрадзіць ДВР.

Характэрна, што на мясцовых інтэрнэт-форумах чальцоў банды ўзвялі ў ранг пакутнікаў, што вельмі непакоіла ўлады. Велізарную колькасць лайкаў збіралі гісторыі пра тое як «народныя мсціўцы» перад тым, як падаць у падполле, моцна пацярпелі ад рук міліцыі.

Як бачым, гарызонт прыхільнікаў адраджэння ДВР настолькі бязмежны, што цяжка казаць нават пра нейкія агульныя контуры праекту. Да таго ж Масква наўрад ці захоча добраахвотна развітацца з такой велізарнай, багатай і перспектыўнай тэрыторыяй. Так што праекту ДВР-2 пакуль наканавана застаецца фантомам. З іншага боку, можна смела спрачацца, ці хопіць у цэнтральнай улады сіл утрымаць рэгіён у цяперашнім выглядзе.




Фота www.bbc.com


Фота www.gazeta.ru

# Адзін прэзідэнт на дзве краіны

Алег НОВІКАЎ

**У Польшчы кандыдат партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) Анджэй Дуда перамог на прэзідэнцкіх выбарах з адрывам у 2,6 працэнта. У выніку наступныя пяць гадоў яму давядзецца кіраваць краем, што падзелены амаль напалову. Што з гэтага атрымаецца?**

Ацэнкі і прагнозы вектара развіцця Польшчы ў час другой кадэнцыі Анджэя Дуды сыходзяць з таго, як самі пераможцы (пераабраны прэзідэнт і кіраўнік урадавай партыі Яраслаў Качыньскі) ацэняць іх вынік. Ёсць думка, што, пабачыўшы лічбы, кіраўніцтва PiS будзе вымушана прызнаць: трэба карэктаваць курс, паколькі палова насельніцтва яго не падтрымлівае. Дарэчы, у сваіх першых каментарах пасля перамогі Анджэй Дуда сапраўды абяцаў, што будзе паважаць думку апанентаў.

Але за прызнаннем памылак мусяць быць канкрэтныя крокі па іх выпраўленні. PiS — палітычная сіла з уласцівым ёй іміджам і наборам ідэалагічных догматаў. Таму хуткая змена парадыгмы думкі і ўчынкаў яе лідараў папросту не чытаецца.

Як вынік, у каментарах наконт выбараў за Бугам дамінуе іншая футуралогія, якая сыходзіць з думкі, што перамога будзе ацэньвацца Дудам і Качыньскім як дэманстрацыя падтрымкі палякамі так званых «добрых зменаў» — рэформаў, якія ўрад праводзіць з 2015-га, пасля прыходу ва ўладу PiS.

Той факт, што перамога, як кажуць у спорце, здарылася на фотафінішы, будзе, хутчэй за ўсё, трактавацца як нейкая тэхнічная недапрацоўка. Каб больш не дапусціць падобных форс-мажораў, будуць зробленыя крокі па ўзмацненні апарата прапаганды і падпарадкаванні партыі дзяржаўнага апарата. Калі верыць найбольш катэгарычным экспертам, за наступную пяцігодку «і без таго пашкоджаная дзяржаўная сістэма стрымак і процівагаў у Польшчы будзе дэмантаваная аналагічна таму, як гэта ўжо адбылося ў Венгрыі». Асобна звяртаецца ўвага на тое, што магчымы поспех ліберальнай апазіцыі на парламенцкіх выбарах 2023-га не цалкам спыніць гэты працэс, паколькі прэзідэнт мае права накладаць вета на пастановы Сейму.

Адначасова на гэтых выбарах PiS адчуў дыханне суперніка з правага боку. Прадстаўнік больш правай партыі «Канфедэрацыя» сенсацыйна адкусіў дастаткова вялікі шматок кансерватыўнага электарату. Таму PiS давядзецца радыкалізавацца, што, адпаведна, надасць яшчэ больш драйву ксенафобскім кампаніям супраць ЛГБТ або «нямецкай пятай калоны» ў выглядзе некаторых СМІ. Сярод іншага чакаецца прыняцце закона аб забароне прапаганды гомасексуалізму ў краіне. Некаторыя нават кажуць, што спроба перахопу радыкальных лозунгаў пасуне PiS у палітычных каардынатах далёка направа. Таксама не выключаюць уваход «Канфедэрацыі» ў склад ураду.

Натуральна, можна чакаць пагаршэння адносінаў Варшавы з Еўрасаюзам, чыя эліта адкрыта сімпатызавала ліберальнаму кандыдату Рафалу Тшаскоўскаму. «Мы вельмі ганарымся вашай выбарчай кампаніяй», — напісаў Рафалу ў Twitter кіраўнік найбуйнейшай парламенцкай групы Еўрапарламента нямецкі кансерватар Манфрэд Вебер. Кампенсатарам за правал кандыдата-лібрала ёсць надзея тое, што Рафал Тшаскоўскі здолее застацца прызнаным грамадствам лідарам апазіцыі, што дасць ёй магчымасць кансалідавацца. Тым больш, што неўзабаве — мясцовыя выбары, пасля якіх адразу пачынаецца парламенцкая кампанія.

Варта адзначыць, што ў большасці прагнозы наконт кадэнцыі Дуды мадэлююць з пункту гледжання, што ў Польшчы захаваецца статус-кво. Аднак некаторыя аналітыкі заклікаюць глядзець у заўтра з папраўкай на эфект цяперашняга эканамічнага крызісу. Адным з яго наступстваў можа быць скарачэнне дзяржаўных сацыяльных праграм і, адпаведна, крах навязанага шматлікім палякам уражання, што PiS з'яўляецца адзіным палітычным абаронцам сацыяльна слабых частак насельніцтва. Такі сцэнар сапраўды мог разбурыць электаральныя базы кансерватараў, даючы старт перафарматаванню ўсёй палітычнай сцэны. Але, як і ўсе папярэднія прагнозы, гэта — толькі прагноз.

**Калі верыць найбольш катэгарычным экспертам, за наступную пяцігодку «і без таго пашкоджаная дзяржаўная сістэма стрымак і процівагаў у Польшчы будзе дэмантаваная аналагічна таму, як гэта ўжо адбылося ў Венгрыі». Магчымы поспех апазіцыі на парламенцкіх выбарах 2023-га не спыніць гэты працэс, бо прэзідэнт мае права накладаць вета на пастановы Сейму**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Дональд Трамп



Шанцы дзейнага прэзідэнта ЗША выйграць прэзідэнцкую гонку паменшыліся, паколькі, з вялікай доляй верагоднасці, ён можа прайграць у штаце Аклахома. Усё з-за рашэння Вярхоўнага суда ЗША, куды Трамп па сваёй квоце нядаўна ўвёў аднапартыйца Ніла Горсача. Апошні аказаўся сапраўдным педантам і пераканаў калег-суддзяў надаць моц аднаму амаль забытаму юрыдычнаму дакументу. Паводле яго, палова штата Аклахома павінна належаць мясцовым індзейцам. Усё пачалося з таго, што суд гэтага штата асудзіў індзейца з племені семінола за злачынства сексуальнага кшталту. У выніку яго справа дайшла да Вярхоўнага суда, дзе высветліла, што некаторыя старажытныя дамовы паміж урадам ЗША і індзейцамі, якіх у свой час дэпартавалі на гэтыя тэрыторыі з родных зямель, захоўваюць сваю сілу. Згодна з дамовамі, усходняя частка штату Аклахома — гэта самакіраваная індзейская рэзервацыя, жыхары якой абавязаныя падпарадкоўвацца федэральнаму заканадаўству, але законы штата ім ужо не ўказ. У выніку суддзі пастанавілі прывесці гэтую норму ў дзеянне, што адразу выклікала хаос у Аклахоме. Некаторых асуджаных злачынцаў цяпер трэба выпускаць на волю. Таксама ў бюджэце штата давядзецца затыкаць фінансавыя дзіркі праз страту значнай часткі падаткаплацельшчыкаў, якія нечакана для сябе сталі рэзідэнтамі індзейскай рэзервацыі. А ўсё з-за пратэжэ Трампа ў Вярхоўным судзе. На думку прэсы, гэты пракол стопрацэнтна адгукнецца Трампу на лістападаўскіх выбарах.

### Золтан Маруша



Міністр адукацыі Венгрыі дабіўся прыняцця ў парламенце закона, які стварае асобную дзяржаўную службу для барацьбы... са школьнікамі, якія зрываюць навучальны працэс. Плануецца, што супрацоўнікі новай структуры будуць несці службу ў 500 школьных установах, дзе сітуацыя найбольш крызісная. Каб навесці парадак, ім будзе дазволена ўжываць гумовыя дручкі і спецыяльны газ. Таксама дазваляецца трымаць парушальнікаў парадку ў кайданках. Паводле прэсы, асноўная задача службы будзе заключацца ў тым, каб ахоўваць настаўнікаў ад нападу вучняў. Калі тым вучням-хуліганам больш за 12 гадоў, іх можна будзе прыцягваць да адказнасці. Ахоўваць настаўнікаў ад вучняў давядзецца, галоўным чынам, на ўсходзе краіны. Тут сярэдні даход хатніх гаспадарак самы нізкі, а доля цыганскага насельніцтва, якое слаба інтэграванае ў грамадства, самая высокая. Такія суровыя меры, гледзячы па ўсім, сапраўды неабходныя. Інакш бы іх не падтрымалі не толькі праўладныя дэпутаты, аднак і апазіцыйныя. Акрамя таго, рашэнне карыстаецца падтрымкай простых грамадзян. 63 працэнты апытаных венграў заявілі, што ў выпадку наяўнасці дэпутацкага мандату яны таксама прагаласавалі б за падобны закон. Застаецца дадаць, што пакуль створаная служба будзе працаваць толькі ў публічных школах, аднак дэпартамент Маруша не выключае, што яе супрацоўнікаў давядзецца ўводзіць у прыватныя і царкоўныя школы.

### Олаф Шольц



Былы віцэ-прэм'ер ФРГ, экс-кіраўнік Сацыял-дэмакратыянай партыі Германіі (SPD) можа стаць кандыдатам на пасаду канцлера ад SPD на выбарах, якія прызначаныя на наступны год. Пры гэтым яго кандыдатуру падтрымліваюць цяперашнія партыйныя лідары Заскія Эскен і Норберт Вальтэр-Бор'янс, якія ў мінулым годзе перамаглі ў барацьбе за права ўзначаліць партыю менавіта Шольца. Цікава, што Эскен і Вальтэр-Бор'янс належаць да левага партыйнага крыла, аднак не супраць Шольца, які лічыцца сябрам больш кансерватыўнага напрамку ўнутры SPD. Стаўку на Шольца можна растлумачыць тым, што на наступныя выбары хрысціянскіх дэмакратаў павядзе ўжо не Ангела Меркель. Пакуль яе пераемнік не вядомы, аднак наўрад ці ён ці яна будзе мець за плячыма такі салідны вопыт дзяржаўнага кіравання, як Шольц, што, натуральна, згуляе яму ў плюс. Паводле апытання каналу ZDF, 48 працэнтаў немцаў лічаць, што Олаф Шольц мае патрэбныя якасці, каб заняць пасаду канцлера. З іншага боку, стартавыя пазіцыі ў эсдэкаў напярэдадні выбарчай кампаніі 2021-га — далёка не самыя лепшыя. Маючы 15 працэнтаў падтрымкі, яны саступаюць у папулярнасці нават Зялёным (16–17 працэнтаў). Што да рэйтынгу партыі Меркель, то ён дасягае 34–35 працэнтаў.

# «Усё жыццё маё — як казка, толькі нядобрая, суровая. Як чужая»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Жыццё пісьменніка Яна Скрыгана сапраўды падобна на злую казку: двойчы рэпрэсаваны, ён цудам выжыў, страціў першую сям'ю. Пасля рэабілітацыі займаў высокія пасады, але іранічнасць стала вернай яго спадарожніцай. Сёлета ў лістападзе споўніцца 115 гадоў з дня нараджэння Яна Скрыгана, з гэтай нагоды дачка пісьменніка ад другога шлюбу Галіна Скрыган выдала шыкоўны альбом — фоталетапіс з хатняга архіва бацькі.**



Партрэт Яна Скрыгана ў хатнім інтэр'еры дачкі




Альбом «Фоталетапіс з хатняга архіва Яна Скрыгана»

## Калі руйнуюцца надзеі

Ян Скрыган — з таго самага пакалення беларускіх пісьменнікаў, якіх рэпрэсіўная машына калі не знішчыла, то скалечыла. Жыццё 19-гадовага хлопца, які толькі распачынаў свой творчы шлях, здавалася светлым і поўным надзей: праца ў друку, «Маладняк», такія ж юныя і апантаныя сябры-пісьменнікі, з якімі гадзінамі можна было размаўляць, дзяліцца ідэямі, спрачацца...

Усё перамяніў 1936 год, які назаўжды перакрэсліў яго мінулае жыццё, пакінуўшы ў ім мары, амаль усіх сяброў і маладую жонку Галіну, якая ўжо чакала дзіця.

Аднойчы, калі пісьменнік знаходзіўся ў Доме творчасці пад Пухавічамі, уначы да яго пагрукалі: «Збірайцеся!» Затым — турма на Валадарскага (пісьменнік і вязень сталінскіх лагераў Сяргей Грахоўскі казаў, што ў той час на «Валадарцы» можна было адкрываць аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР), суд па 58-м артыкуле за «контррэвалюцыйную дзейнасць» і этап у Сібір на 10 гадоў.



**Ян Скрыган.** Фота з адкрытых крыніц



Галіна Скрыган

Літаратар адбываў тэрмін у Кемераўскай вобласці. І там яго напаткаў, калі можна так сказаць, шчаслівы выпадак. У лагеры спатрэбіўся бухгалтар. І калі ў вязняў запыталіся, хто ўмее лічыць на лічыльніках, Скрыган падняў руку. Так ён пачаў працаваць бухгалтарам, і гэты занятак стаў для яго асноўным на многія гады.

У 1941 годзе да пісьменніка дайшлі скрушныя звесткі, што ў драўляны дом на Круглай плошчы ў Мінску (у раёне цяперашняга Дома літаратара), дзе жылі яго жонка, цешча і сын, трапіла бомба — і ўсе загінулі.

Пісьменнік шмат разоў прасіў, каб яго адправілі на фронт. Ён выдатна разумеў, што зэкаў адпраўляюць наперад, у самае пекла, і выжыць там амаль што немагчыма. Але начальства яго не пускала.

## Ад Ферганы даКівіылі

Пасля вызвалення ў 1946 годзе Яну Скрыгану, пазбаўленаму права вярнуцца ў Беларусь і жыць у буйных гарадах Савецкага Саюза, заставалася толькі ткнуць пальцам у мапу СССР. Ён так і зрабіў — і трапіў на Фергану ва Узбекскай ССР. Пэўна, чарговы раз здарыўся цуд, бо без грошай, ежы, губляючы прытомнасць на шляху, пісьменнік дабраўся да Ферганы, і там змог уладкавацца бухгалтарам на эвакуяваны з Масквы гідролізны завод.

Там ён сустрэў масквічку Ганну, муж якой загінуў, але застаўся маленькі сын Алік. Неўзабаве Ян і Ганна ажаніліся, і ў іх нарадзілася дачка, якую назвалі Галінай. Ганна з разуменнем паставілася да жадання мужа назваць дзяўчынку імем яго першай жонкі.

У чужым далёкім горадзе жыць было цяжка. Праблем дадавалі і нязвыклы клімат — Ганна і Алік цяжка перахварэлі на малярыю. Таму, калі Ян атрымаў ліст ад чалавека, з якім сядзеў у лагеры, з запрашэннем прыехаць на працу ў Эстонію, не задумваючыся прыняў прапанову. Так сям'я ў 1949 годзе пераехала ў эстонскі горадКівіылі, дзе Скрыган уладкаваўся бухгалтарам на сланцахімічны камбінат.

## Другое кола пекла

Дзяржава і людзі пакрысе ачомваліся ад ваеннага ліхалецця. І тут Сталін згадаў, што «палітычныя», якіх не расстралялі ў 1930-х, выйшлі на волю — а гэта небяспечна. Па ўсім Саюзе пайшла другая хваля рэпрэсій. Праўда, гэтым разам не расстрэльвалі, а высылалі на вечнае пасяленне ў самыя дальнія куткі краіны.

Пасля года жыцця ў Эстоніі прыйшлі і да Скрыгана. Яму дазволілі развітацца з сям'ёй і адправілі ў Сібір — у сяло Сухабузімскае Краснаярскага краю. Верагодна, жонку таксама чакала высылка ў лагер і разлука з дзецьмі, але адзін спагадлівы супрацоўнік міліцыі папярэдзіў Ганну: у чацвер усё начальства з'язджае на рыбалку, а ў панядзелак з ёй збіраюцца расправіцца.

У той жа дзень Ганна з сястрой узялі дзяцей і пад выглядам прагулкі, без рэчаў, пайшлі на вакзал, селі ў цягнік і з'ехалі ў добраахвотную ссылку да Яна Скрыгана ў Сібір.

Жылі ў зямлянцы, вялі гаспадарку і думалі, што застануцца тут назаўжды. Даведаўшыся пра смерць Сталіна, ад шчырага гора плакалі ўсе, нават дзеці. Але калі ў 1955 годзе Скрыгану прыйшоў ліст, у якім паведамлялася пра яго рэабілітацыю, ён адчуў, што не можа больш заставацца ў Сібіры ні аднаго дня.

## Вяртанне з мёртвых

Яна Скрыгана аднавілі ў правах, ён змог вярнуцца ў Мінск і стаў займаць адказныя пасады: загадваў літаратурна-кантрольнай рэдакцыяй «Беларускай Савецкай энцыклапедыі», створанай яго сябрам Петрусём Броўкам, працаваў рэдактарам у Дзяржвыдавецтве БССР, літкансультантам Саюза пісьменнікаў, рэдактарам і намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». У гісторыю беларускай літаратуры Ян Скрыган увайшоў як майстар нарысаў, навел і абразкоў, якія меў выдатнае адчуванне мовы. Аб сваёй працы адказным сакратаром камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры пісьменнік з іроніяй згадваў: калі чалавеку «свяціла» прэмія, ён заўважаў Скрыгана здалёк, вітаўся. Але як толькі прэмію ўручалі — яго пераставалі бачыць. Але пра ўсё гэта Ян Скрыган пісаў без злосці, як і распавядаў пра лагерныя часы, якія ён называў «акадэміяй», паколькі знаходзіўся там сярод найінтэлігентных людзей, сапраўднай эліты грамадства.

У 1963 годзе на адрас Саюза пісьменнікаў прыйшоў ліст — аказалася, ад сына Усевалада, якога Ян Скрыган ніколі не бачыў і лічыў загінулым. Высветлілася, што падчас вайны першая жонка Галіна з маленькім сынам трапіла ў Германію і там засталася. Аднойчы Усевалад запрасіў бацьку ў госці. Але як толькі яны пачалі перапісвацца, у доме Скрыганоў стаў з'яўляцца дзіўны малады чалавек, які было літаральна не выправадзіць. Ян і Ганна адразу зразумелі, адкуль ён. І калі пісьменнік атрымаў запрашэнне ад сына, яго адразу выклікалі і сказалі, што не рэкамендуюць яму ехаць. Сустрэча з сынам так ніколі і не адбылася. Толькі дачка пісьменніка Галіна Іванаўна змагла двойчы ўбачыць брата, калі прыязджала да яго ў 2007 і ў 2011 гадах.

## Памятны альбом

Ян Скрыган, па словах дачкі, распавядаў пра лагернае жыццё вельмі мала і неахвотна. Але ён пакінуў па сабе дзённікі з успамінамі, у тым ліку пра высылкі. «Усё жыццё маё — як казка, толькі нядобрая, суровая. Як чужая», — пісаў гэты спакойны, незласлівы і па-добраму іранічны чалавек. Усе рукапісы пісьменніка Галіна Іванаўна апрацавала, нешта з іх выдала ў 2013 годзе асобнай кнігай «Сэрцу горкая далячынь».

І вось цяпер, да 115-годдзя бацькі, яна выдала альбом «Фоталетапіс з хатняга архіва Яна Скрыгана». У дыхтоўнае выданне, якое пабачыла свет у выдавецтве «Кнігазбор», увайшлі некалькі соцень фатаграфій з архіва Яна Скрыгана, а таксама пазнейшыя яго сямейныя фотаздымкі, многія з іх ніколі раней не публікаваліся. Апроч таго — цытаты з дзённікаў пісьменніка, біяграфічныя звесткі пра людзей з фотаздымкаў, запрашэнні на літаратурныя імпрэзы, якія пісьменнік захоўваў з моманту вяртання ў Мінск, і многае іншае. Альбом будзе прэзэнтаваны падчас вечарыны, прымеркаванай да 115-годдзя Яна Скрыгана, якая пройдзе 28 лістапада ў сталічнай бібліятэцы імя Уладзіміра Маякоўскага (вул. Сяліцкага, 103) а 15-й гадзіне.

**Фота аўтара**

# Каронавірус закрануў большасць клубаў вышэйшай лігі. Да чаго вядзе такі футбол?

Сяргей КАЙКО

**Калі вы будзеце чытаць гэтыя радкі, нехта з беларускіх футбалістаў, магчыма, адчуе сябе блага. У яго падвысіцца тэмпература, ён звернецца да медыкаў свайго клубу, а тыя... Толькі развядуць рукі, дый адправяць хлопца ў вымушаную самаізаляцыю, папярэдне выпісаўшы яму квіток на важную працэдуру.**

Справа вядомая — тэст на «карону». Каб чаго не выйшла — «кавіду» ці пнеўманіі. І каб чэмпіянат Беларусі — самы адчайны ў свеце — працягваўся надалей. На радасць простых заўзятараў і вышэйстаячых інстанцый. І на злосць пандэміі, якую ў нашых юдолях бачылі ў труне ў белых тапках ды ўвогуле ўжо даўно перамаглі.

Але ж каронавірус не пытае дазволу на распаўсюд. І ў той час, калі статыстыка захворванняў у краіне імкліва паляпшаецца, у беларускім футболе сітуацыя застаецца складанай і непрадказальнай.

Пра рашучую перамогу над зламысным вірусам Лукашэнка ўчарговы раз абвясціў 2 ліпеня. На наступны дзень брэсцкае «Дынама» выйшла гуляць супраць «Смалявічаў», і выявілася, што ў складзе чэмпіёна краіны не хапае цэлай групы вядучых футбалістаў — Сяргея Ігнатовіча, Дзяніса Лапцева, Аляксандра Наёка, Яўгена Хачэрыдзі, Рамана Юзэпчука, Усевалада Садоўскага... Праз гэта перамагчы берасцейцы не змаглі (3:3), але і тое было толькі кветачкамі. Ужо праз пару дзён журналісты паведамілі, што ў клубе-чэмпіёне з працоўнага рытму выбіліся аж 16 чалавек — уключаючы абслуговы персанал і самага зорнага гульца каманды Арцёма Мілеўскага. Той, зрэшты, і сам адрапартаваў у Instagram: маўляў, сыходжу ў двухтыднёвую ізаляцыю. І хаця пра канкрэтныя дыягназы ў Брэсце афіцыйных звестак не было, неафіцыйныя сведчылі красамоўна — COVID-19, пнеўманія, падазрэнні на «карону».

Зразумела, што ідылічную ліпеньскую карціну ў беларускім чэмпіянаце гэтая гісторыя сапсавала. У футбольнай федэрацыі не засталося іншага выйсця, акрамя як перанесці бліжэйшыя матчы «Дынама» на больш позні і бяспечныя тэрміны.

Цяпер самы час — лічыць і маніторыць. Берасцейцы — далёка не першы клуб, які пацярпеў ад каронавіруса. Загінайце пальцы.

Яшчэ ў траўні цень пандэміі навіс над «Мінскам». У цэнтры ўвагі апынуўся ўкраінскі абаронца Яўген Чагавец, якога паклалі ў шпіталь. Каманду распусцілі, гульцоў адправілі на каранцін, матчы перанеслі. Праз тыдзень-другі ў званы білі ўжо ў Жодзіне. Там вірус напаткаў брамніка Уладзіміра Бушму, паўабаронцу Міхаіла Афанасьева, трэнера Сяргея Зяневіча, а ў дадатак ад калектыву ізалявалі яшчэ двух футбалістаў — Максіма Бардачова і Андрэя Хачатурана.


Арцём Мілеўскі не засцярогся ад каронавіруса і сышоў у двухтыднёвую самаізаляцыю

Далей без падрабязнасцяў — толькі праз коску. За мінулыя месяцы каронавірусная сімптаматыка была зафіксавана ў цэлым шэрагу каманд вышэйшай лігі: «Іслач» і «Нёман», «Гарадзея» і «Энергетык», «Віцебск» і «Смалявічы».

Усяго, атрымліваецца, прама ці ўскосна інфекцыя закранула дзевяць каманд — больш за палову элітнага дывізіёну. Мінула гэтая зараза адпаведна сем каманд — барысаўскі БАТЭ, салігорскі «Шахцёр», мінскае «Дынама», «Слуцк», мазырскую «Славію», брэсцкі «Рух» і «Белшыну» з Бабруйску.

Якія з таго высновы? Іх некалькі, і ўсе прамежкавыя. Па-першае, нягледзячы на бягучыя трывогі, панічныя настроі ў беларускім футбольным соцыуме пакуль не дамінуюць. Размовы пра прыпыненне чэмпіянату гучаць сціпла — ужо таму, што ў Еўропе, пасядзеўшы на каранціне, таксама пачалі гуляць у футбол. Па-другое, любыя пераможныя рэляцыі цяпер рабіць заўчасна. Выпадак з Брэстам паказвае, што ўспышка каронавіруса можа ўзнікнуць дзе заўгодна і калі заўгодна. І па-трэцяе — галоўнае — якімі б трыумфальнымі ні былі заявы афіцыйных кіруючых асоб, у заўтрашні дзень усё роўна трэба глядзець з асцярогай.

Чаму? А таму, што згуляна пакуль толькі палова футбольнага сезону. Наперадзе — самае цікавае і адказнае. У прыватнасці, еўракубкі. І тое, што ўмоўны БАТЭ яшчэ ад вірусу не пацярпеў — толькі нагода да дадатковай пільнасці. Бо, калі ўявіць, што ў Барысаве напярэдадні старту ў Лізе Еўропы распачнецца масавы каранцін... Ці ў Салігорску станоўчыя тэсты здадуць вядучыя гульцы — а назаўтра камандзе праводзіць міжнародныя матчы... У гэтым разе мы пачуем вельмі шмат новых — і даволі рэзкіх — словаў пра сваё бескланотнае стаўленне да каронавіруснай пагрозы.

Але і гэта яшчэ не ўсё. На пачатку кастрычніка зборная Беларусі прыме ўдзел у плэй-оф Чэмпіянату Еўропы. Каманду чакае лёсавырашальны матч з грузінамі ў Тбілісі, ад выніку якога будзе залежаць перспектыва гістарычнага ўдзелу ў фінальнай частцы EURO. Хочацца верыць, што на той момант эпідэміялагічная сітуацыя ў Беларусі цалкам нармалізуецца і пра каронавірус мы будзем успамінаць хіба што з лагоднай усмешкай. Аднак ці дасць хто гарантыю, што пандэмія не вернецца да нас восенню — хай нават толькі выпадковым рэцыдывам? І не ўдарыць па гульцах зборнай, якой трэба ляцець у Грузію мацнейшым складам — інакш там лавіць няма чаго...

Таму, хто б што ні гаварыў з высокіх трыбунаў, нічога яшчэ не зразумела ў процістаянні беларускага футбола каронавіруснай інфекцыі. Пасярод лета мы фіксуем хісткую раўнавагу, і не болей. Дзе-нідзе на «кавід» ужо перахварэлі, дзе-нідзе працягваюць удала засцерагацца. Але да фінальнага свістка ў гэтым дзіўным матчы — у гэтай рулетцы, дзе на коне чалавечае здароўе, — яшчэ далёка.

# Будзе сядзець. Суд сказаў

Сяргей КАЙКО

**Падведзена рыса пад чарговай крымінальнай справай у беларускім футболе.**

Колькі іх ужо было ў апошнія гады... Першая хваля дамоўных матчаў, ад якой здрыгануўся спартыўны байнэт. Гісторыя з хабарніцтвам кіраўніка судзейскага дэпартаменту БФФ Андрэя Жукава — яна каштавала яму пяці гадоў свабоды ды канфіскацыі маёмасці. Пацешны кейс шараговага клерка федэрацыі Юрыя Талкачова, які пагарэў на распаўсюдзе парнаграфічных матэрыялаў і быў арыштаваны наўпрост на працоўным месцы...

Ніколі такога не было, і вось зноў. У панядзелак суд Маскоўскага раёна Мінска прыбіў другую хвалю дамоўных матчаў. Разбіральніцтва цягнулася чатыры месяцы, па справе праходзілі ў якасці абвінавачаных 20 чалавек, і кожны з іх атрымаў свой прысуд.


Фота прэс-службы ФК «Дынама-Мінск»
Аляксей Казлоў: ад удзельніка Алімпіяды да двух гадоў калоніі

**Для даведкі**

Дамоўны матч — гэта матч з загадзя вызначаным вынікам. Такая з'ява была ў спорце заўсёды, але раней для рэалізацыі падманнага сцэнару сапернікі дамаўляліся паміж сабою. Калі ж у індустрыі спорту з'явіліся букмекеры, двухбаковыя «мемарандумы» страцілі сэнс. Цяпер дастаткова адной з каманд прайграць гульню згодна з прыдуманай схемай — барыш прыносіць стаўка, зробленая на таталізатары пад гэты канкрэтны вынік.

Усяго следчыя ўзялі ў абарот 16 паядынкаў. Яны адбыліся ў 2017–2018 гадах у розных футбольных дывізіёнах чэмпіянату Беларусі. Цікава, што адзін з матчаў махляры арганізавалі таксама ў валейболе, але гэта, бадай, нязначная падрабязнасць.

Значна іншае — у крымінальную вытворчасць аператыўнікі ўзялі не нейкіх там бесталковых «ноунэймаў». У справе фігуравалі шматлікія вядомыя гульцы. Віталь Ланько і Аляксей Сучкоў некалі выступалі за нацыянальную зборную краіны. Сяргей Цвяцінскі, Міхаіл Гарбачоў, Арцём Цяплоў, Віктар Баравіцкі ў розны час адзначыліся ў маладзёжнай. Асобны выпадак — Аляксей Казлоў. Той нават удзельнічаў у Алімпіядзе, куды сенсацыйна трапілі беларускія футбалісты ў 2012-м.

Усе яны ў панядзелак сабраліся ў судзе Маскоўскага раёна Мінска. Мінулыя месяцы яны хадзілі туды як на працу, бо крымінальная справа складала мноства тамоў і патрабавала доўгага судовага разгляду. Абвінавачаным інкрымінавалі злачынствы, здзейсненыя паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэкса — 253 («подкуп удзельнікаў і арганізатараў прафесійных спаборніцтваў»), 14 («замах на такі подкуп»), а таксама 209 («Махлярства»).

І вось фінал — вырак, зачытаны судом цягам паўгадзіны. Самае строгае пакаранне атрымаў згаданы вышэй Казлоў — два гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Беспрэцэдэнтны выпадак: упершыню за дамоўныя матчы ў Беларусі злачынца расплаціцца рэальным пазбаўленнем свабоды.

Лёс удзельніка Алімпіяды пагоршыў менавіта «махлярскі» артыкул. У адным з эпізодаў Казлоў узяў грошы за забеспячэнне патрэбнага выніку матча, але не перадаў іх уцягнутым у аферу гульцам. Пакаранне ж за махлярства суровае, і тыя самыя два гады — гэта ніжэйшая планка.

Баравіцкі і Ланько таксама будуць вымушаны пакінуць звыклы арэал пражывання. Першы прысуджаны да чатырох, другі — да трох гадоў абмежавання свабоды з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу (папросту — на «хімію»).

Іншыя фігуранты атрымалі больш мяккія прысуды — ад абмежавання свабоды без «хіміі» (ад 1,5 да 4 гадоў) да папраўчых работ і буйных штрафаў.

Асобна трэба сказаць аб матывацыі ўдзельнікаў цёмных гульняў. Большасць прызнаецца ў рэдкіх каментарах, што станавіцца на коўзкую сцежку іх вымушае трывіяльнае безграшоўе. Ні ў якім разе не апраўдваючы прайдзісветаў, варта, аднак, адзначыць, што душой яны часта не крывяць. Міф пра казачныя заробкі спартоўцаў не бясконцы — і, як правіла, заканчваецца там, дзе цьмянее глянец мэйнстрыму. Тыя ж футбольныя клубы ніжэйшага слоя, тыя ж бюджэтныя валейбольныя ды баскетбольныя каманды, не ў стане плаціць добрыя зарплаты. Да таго ж кантрактныя абавязкі нярэдка не выконваюцца, грошай нестае, спонсары адварочваюцца, з'яўляюцца запазычанасці... У выніку гульцы застаюцца ні з чым, атрымліваючы якія-небудзь 500 рублёў на месяц. Што, натуральна, ставарае ўрадлівую глебу для разнастайных махінацый.

Не мінае гэты лёс нават прадстаўнікоў самага прывілеяванага віду спорту — хакея. Акурат у гэтыя дні ў Мінску працягваецца яшчэ адзін судовы працэс — у цэнтры ўвагі чацвёра былых хакеістаў маладзечанскага «Дынама», якія восенню згулялі ў падаўкі з «Магілёвам». Там таксама гучаць вядомыя імёны, ёсць нават экс-нападаючы хакейнай каманды кіраўніка краіны. Яны сведчаць, што да злачынства іх падштурхнула цяжкае фінансавае становішча. Нібыта некалькі месяцаў жыць прыходзілася на 150 рублёў на месяц.

# «О Беларусь, мая шыпшына»



**Па гарызанталі:** 1. Горад на Віцебшчыне, недалёка ад якога ў вёсцы Агароднікі 120 гадоў таму — 15 ліпеня 1900-га — нарадзіўся беларускі паэт, празаік, мовазнавец, перакладчык Уладзімір Дубоўка. 4. Вялікі … . Імя, атрыманае Уладзімірам Дубоўкам ад сучаснікаў, за яго больш чым 20 гадоў жыцця, праведзеных у зняволенні па міфалагічнай справе «Саюз вызвалення Беларусі». 9. Мужыку …, што святому рай (прыказка). 10. Збудаванне на рацэ, канале. 11. «Дзе прайшло …, там пачынаецца Радзіма». Кузьма Чорны. 13. Тое, што і тварэц. 15. Прыйшоў Пятрок (12 ліпеня), … дня ўвалок (прыказка). 16. Грамадскі дзеяч (высокае); ім быў адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры Уладзімір Дубоўка. 19. Ліпень — … : шчодры на духмяныя ягады (прыказка). 20. «Як на …, на Купалле, // ад паўночы да світання // кветку шчасця ў нас шукалі». З верша паэта «Кветка шчасця». 23. «Самы чысты мёд на сталы — … ліпеня». З верша Еўдакіі Лось «Лірыка ліпеня». 25. Рэчаіснасць. 27. Вядомы паэт, вершы якога становяцца песнямі. 29. Узнёсласць. Ім, …, прасякнуты амаль усе творы Уладзіміра Дубоўкі. 31. Паўночны вецер. 32. «О Беларусь, мая шыпшына, // зялёны ліст, чырвоны …!». З верша паэта «О Беларусь, мая шыпшына». 33. Каток (размоўнае). 34. Кароткае друкаванае паведамленне.

**Па вертыкалі:** 1. Кніга апавяданняў — успамінаў паэта пра перажытае ім у змрочныя часы свайго жыцця. 2. «І цераз цемру — цемніну // паліўся дождж, як цераз …». З верша паэта «Дождж у Мазыры». 3. Шумны натоўп (размоўнае). 5. Ваеннае судна ў парусным флоце ў XVIII–XIX стагоддзі. 16. Зборнік вершаў паэта, выдадзены ў Маскве ў 1927 годзе. 7. Складальнік казак. Ім быў і Дубоўка, аўтар казак «Залатыя зярняты», «Мілавіца», «Кветкі — сонцавы дзеткі», «Як сінячок да сонца лётаў». 8. «… Беларусі». Першы верш паэта, надрукаваны ў 1921 годзе ў газеце «Савецкая Беларусь», а ў 1923-м у Вільні выйшаў яго першы паэтычны зборнік «Строма». 12. «Мой …». Аўтабіяграфічны твор Уладзіміра Дубоўкі. 14. «Палеская …». Кніга паэзіі, за якую Уладзімір Дубоўка ў 1962 годзе быў узнагароджаны літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы. 17. Ніжняя частка лодкі, судна. 18. Беларускае мужчынскае імя. 21. «Узвышша», «…». Літаратурныя аб'яднанні ў Беларусі ў 1920–1930-х гадах, сябрам якіх быў Уладзімір Дубоўка. 22. Невялікі абрус. 24. Завадатар, важак. 26. Зборнік вершаў Максіма Багдановіча, з якім паэт не разлучаўся нават у высылцы. 27. Грашовая аперацыя. 28. «Дзе шыпшына ў снезе, нібы …». З верша Віктара Шніпа «Балада Уладзіміра Дубоўкі». 30. «І ўсё ж адсюль я ў … пайшоў, // І тут ён, гэты самы бераг». З амаль аўтабіяграфічнага верша паэта «А колькі б дзе ні вандраваў».

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Волат слова Кузьма Чорны» (НЧ №24 ад 26 чэрвеня):**
**Па гарызанталі:** 2. Мікалай. 6. «Зямля». 8. Кніга. 10. Тамаш. 12. Шпак. 14. Міні. 16. Слова. 17. Волат. 20. Ёмка. 21. Ачаг. 23. «Гузік». 27. Ісլач. 28. Народ. 29. Вяселле.
**Па вертыкалі:** 1. «Узвышша». 3. Кіпа. 4. Люба. 5. Радзіма. 7. Язь. 8. Кат. 9. Пагалоскі. 11. Цімкавічы. 13. Балада. 15. Навела. 18. «Дзённік». 19. Рагнеда. 22. Ноч. 24. Укос. 25. Ідал. 26. Тон.

# БагатаДата

**Пастановай ЦК КПБ 95 гадоў таму слова «жыд», якое ў беларускай мове было нейтральным, ператварылі ў абразлівае. Больш цікавостак — у нашым традыцыйным аглядзе.**

## 18 ліпеня

**1900.** У расійскім горадзе Іванава-Вазнясенск нарадзілася французская пісьменніца, пачынальніца «новага раману» Наталі Сарот. Яе продкі паходзілі з Беларусі. А сапраўднае прозвішча літаратаркі — Чарняк. Па-беларуску выходзіў яе раман «Трапізмы».

## 19 ліпеня

У Беларусі адзначаецца (у трэцюю нядзелю ліпеня) **Дзень металурга.**

## 20 ліпеня

**Міжнародныя дні шахматаў і торта.**

**1895.** У вёсцы Зубарэвічы Глускага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся дзяржаўны дзеяч БССР Пракоп Малаковіч. У 1920-я гады народны камісар унутраных спраў БССР, першы старшыня Вярхоўнага суда. У 1937 годзе быў арыштаваны ў Маскве і асуджаны за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі правых» і «падрыхтоўку тэрарыстычных актаў, накіраваных супраць кіраўнікоў Савецкага ўрада». Расстраляны ў дзень вынясення выраку.

## 21 ліпеня

**1995.** Пачало вяшчанне незалежнай беларускамоўнай «Радыё 101,2». Дзейнічала да канца лета 1996 года, пакуль уладамі не была забраная частата. Ахоплівала эфірам Мінск і ваколіцы на некалькі дзясяткаў кіламетраў. Свае передачы на гэтым радыё вялі рок-зоркі Кася Камоцкая і Лявон Вольскі. Кіравала радыёстанцыяй Жанна Літвіна, якая пазней узначаліла Беларускую асацыяцыю журналістаў.










## 22 ліпеня

**Міжнародны дзень боксу і Сусветны дзень мозгу.**

**1895.** У Глыбокім на Віцебшчыне нарадзіўся знакаміты авіяканструктар Павел Сухі. У пачатку 1940-х гадоў пад яго кіраўніцтвам былі створаны савецкія самалёты-знішчальнікі СУ. Сухі — аўтар больш як 50 мадэляў самалётаў, 30 з якіх былі пабудаваныя. На самалётах яго канструкцыі неаднаразова




ўстанаўліваліся рэкорды па працяглгасці, хуткасці і вышыні палётаў. Імя Сухога нададзена Гомельскаму дзяржаўнаму тэхнічнаму ўніверсітэту: калісьці ў Гомелі авіяканструктар вучыўся ў гімназіі і менавіта тут вызначыўся з будучай прафесіяй.

**1910.** У вёсцы Вялікія Міхнічы Талачынскага раёна Віцебскай вобласці нарадзіўся танцоўшчык і балетмайстар Пётр Акулёнак. Цягам 20 гадоў працаваў галоўным балетмайстрам Дзяржаўнага народнага хору БССР.

## 23 ліпеня

**1920.** У горадзе Рціщчава Саратаўскай вобласці Расіі нарадзілася актрыса Ніна Карнеева. Народная артыстка Беларусі.

## 24 ліпеня

**1885.** У мястэчку Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна нарадзіўся грамадска-палітычны дзеяч, аграном і педагог Мікалай Ярашэвіч. У 1920 годзе стаў першым рэктарам Беларускага палітэхнічнага інстытута (цяпер — Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт). На наступны год арыштаваны па абвінавачванні ў антысавецкай дзейнасці і сасланы ў Ташкент. Затым ва Узбекістане быў арыштаваны і асуджаны яшчэ раз. Загінуў у лагеры.

**1925.** Бюро ЦК КПБ выдала пастанову з мэтай «лічыць неабходным выкараніць з ужывання ў беларускай мове слова "жыд" і замяніць яго словам "яўрэй"». Так, слова «жыд», якое ў беларускай мове было нейтральным, ператварылі ў абразлівае.

**1950.** У Мінску нарадзіўся грамадска-палітычны дзеяч Генадзь Грушавы. Дэпутат Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 склікання, кіраўнік дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля».

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1176

Падпісана да друку 16.07.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.